Ніна Шклярава

# Млён

*Вершы, паэмы, баллады*
*1971–2012*

Мінск, «Кнігазбор», 2012

УДК 821.161.3????
ББК 84(4Беи)
Ш66

Мастак
*Любоў Зубава*

**Шклярава, Н.**
**Ш66** Млён : Вершы, паэмы, балады 1971–2012 / Ніна Шклярава. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 200 с.
ISBN 978-985-7057-01-6.

Імя Ніны Шкляравай вядома не толькі на Беларусі. Пісьменніца — лаўрэат расійскай прэміі імя Мікалая Мельнікава. Узнагароджана дыпломам Міжнароднага конкурса «Сузор'е Ліхачова» сярод педагогаў высокаадоранай моладзі. Заснавала першую ў рэспубліцы школу «Малады літаратар».

Вершы паэтэсы адразу прываблiваюць сваёй непасрэднай шчырасцю і напеўнасцю, зачароўваюць самабытнасцю таленту і непаўторнасцю голасу. Кожны радок нібыта жывы: дыхае, думае, верыць, любіць, спадзяецца...

У кнізе сабраны вершы з пяці беларускамоўных зборнікаў, пачынаючы з 1971 года.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-01-6**



## *Замест прадмовы*

*Ніна, я яшчэ вучыўся ў Універмагу, дык купіў тваю кніжку... Усё вяртаецца на кругі свая! Мая мамка ў паэзіі! Раніца Вясны!*

*Анатоль Сыс**

## *Малітва*

Божа міласцівы!
Дзякуй табе за неспадзяваную радасць — кнігу гэту,
за добрых людзей, што пасылаеш насустрач.
Ратуй іх ад усялякага зла, пазбаў ад цяжкай хваробы,
засланi ад бяды і напасці.
Беражы іх дома, на рабоце, у дарозе
і на кожным месцы тваёй абіцелі.
Амінь.

---

* Аўтограф Анатоля Сыса (2002 г.) на кнізе Ніны Шкляравай «Міг і вечнасць». «Універмагам» ён жартам называў Гомельскі ўніверсітэт.



Я узнікла Ніадкуль
І вярнуся ў Нікуды.

Там нямашака пакуль
Ані шчасця, ні бяды.

Ані цемры, ні святла,
Ані сцежкі, ні жытла.

Ёсць хіба што — неспадзеў,
І той быць не захацеў.

# Пад кронаю поўні



## Млён*

За млён вазьмуся, завуркочуць жорны,
І млівa** заструменіцца, як шоўк...
Вось так і словам мае думкі поўны,
Як перамелецца, то будзе толк.

Як перамелецца, пальюцца вершы,
І заструменіцца жыцця выток...
Ля ног маіх вусаты брат мой меншы —
Кацяра рыжы згорнецца ў клубок.

І ніва зжата, і спічасты сцёрань
Не коле болей маіх босых ног...
Да зерня — зернеткі, да зоркі — зоры.
На белы ліст надзённы хлеб мой лёг.

І вока радуе, і песціць дух мой.
Рунее збажына, дзе рос быльнёг,
Пакуль заранка у вачах не тухне
І завіхаецца ў нябёсах Бог!

## Поўня

Спявае ціха-ціха поўня,
Сівая поўня ды ў акне...
Хаця я поўні і не роўня,
А хочацца запець і мне.

Спявае поўня пра дзяўчынку,
Што йдзе пясочкам басанож...
А ў вачанятах — ні слязінкі,
А ў вачанятах — рэчка Сож.

---

* Млён — ручка, пры дапамозе якой круцілі жорны.
** Мліва — зерне для памолу і сама мука.



А косы доўгія дзяўчынкі
Яе абнялі за плячо...
Трапеча хваля, як хусцінка,
І за сабой заве дзяўчо.

Ляжыць сукенка, як паненка,
Адна на беразе крутым...
Дзяўчынка плавае, а ў зрэнках
Адбітак поўні залаты.

Смяецца рэха над вадою,
Звініць над рэчкай маладосць!..
І знаць не хочацца пра тое,
Што ты на гэтым свеце — госць.

...Плыве сівая ў небе поўня,
Святло струменіцца ў акне...
І хоць я поўні і не роўня,
Ды шкода гэту поўню мне.

## Серабро

Серабро, серабро — на далонь!..
Серабрыцца на сонцы рака,
У рацэ той купаецца конь,
Мые ногі свае асака.

Адвячоркам, як толькі агні
Адплывуць па вадзе ўдалячынь,
Ажывае ў начной цішыні
Шляху Млечнага зорная плынь.

Серабро, серабро, серабро
Асыпае на скроні мае.
І ад гэтых ад зорных вятроў
Серабрыцца лядок на траве.

На вяселлі сярэбраным лёд
Ад любові дваіх растае.
І сагрэты каханнем народ
Весяліцца, танцуе, пяе.

Серабро, серабро, серабро…
Залацістага вэлюму дым…
Залатое маё ўсё дабро —
Маладым, маладым, маладым!

Серабро, серабро — ды ў агонь!
Шляху Млечнага льецца рака.
Зачакаўся на беразе конь,
Рэжа ногі мае асака…

## Шугалея*

Лёсу майго шугалея!
З літар і словаў зроблена,
Рыфмай маёй аздоблена,
З'явай жыцця і падзеяй.

Вось я ў сукенцы вясельнае!…
Шчасце такое горкае,
Пахне замовай і зёлкамі
Гэта гарэлачка хмельная!

Кожная рыска і шчыліна
Тут адзываецца болем:
Вось ад маланкі вуголле,
Вось — ад гадоў маіх звіліны.

Гэты бок хваляй аблашчаны.
Ветрам другі зацалованы,

* Шугалея — лодка, выдзеўбаная з дрэва.



Поўніцца роднаю моваю
Сэрцайка лодкі удзячнае.

Лёсу майго шугалея
З белай паперы зроблена,
Стужкай чырвонай аздоблена,
Ветразь яе — надзея!

❊ ❊ ❊

Нібы парасонік,
Хмарка над сялом…
Грукаціць пагоня,
Ці вясенні гром,
Ці вясенні гром?

Міма пранясецца
Ветрык-баламут.
У сяцёх заб'ецца
Бліскавіцы спрут,
Бліскавіцы спрут.

Як дзіцёнак хворы
Раскрычыцца гром…
Месячык з дакорам
Знікне за вуглом,
Знікне за вуглом.

А ў нябёсах птушка
Праплыве ладдзёй…
А нядоля — служкай
Наўздагон за ёй,
Наўздагон за ёй.

Я стыхар спрасонку
Прашапчу крыжу.

Шамацяць старонкі,
Ці то хор дажджу?
Ці то хор дажджу?

Мной даўно забытая
Ўскалыхне душу
Шчырая малітва —
Вуснамі дажджу,
Вуснамі дажджу.

## Каласаванне

Аднойчы сына Коласа сустрэла
І доўга бегла я за ім услед...
Але разглядзець так і не паспела,
Што ён ужо амаль старэнькі дзед.

І хоць сама таксама ўжо бабуля,
Дагнала. «Аканіцы» падаю.
А сэрцайка танцуе «Крамбамбулю»,
Мелодыю любімую маю.

Ён усміхаецца, і я адчайна
Нырца дала, нібыта у раку:
— А можна вас абняць?
                І, як звычайна,
Пацалавала ціхенька ў шчаку.

Ён у адказ свяціўся ўсёй істотай,
Лагодай беларускай, дабрынёй...
І можа, Якуб Колас сам употай
На нас глядзеў
        з бацькоўскай цеплынёй.



## Пра гэтае

*Пушкіну ў дзень нараджэння*

Беласнежныя гусі-лебедзі,
Што ж вы крыламі вочы слепіце?

І адкуль узяліся зранку вы?
Ці вы Янкавы,
        ці Іванкавы?

І з якога вы верша спеўныя —
Ці то Пушкіна,
        ці Ясеніна?

Над Палессем вы пралятаеце
І, як воблака, раставаеце.

Беласнежныя гусі-лебедзі,
Як у небе анёлаў стрэнеце,

Перадайце, што зачараваны
Іх дзівоснае песні словамі.

Быццам казкі пачулі Пушкіна,
Дзе гарматы грымелі рускія.

Тут дубы растуць самабытныя,
Хоць вучоны кот і размытнены!

Ды жывуць яшчэ Радзівонаўны,
Іх радзіма тут, і — законная.

А Алёнкі ёсць — дужа мудрыя,
Нібы сонейка, залатакудрыя!

Замуж скочыўшы ліхаманкава,
Дурняў любяць сваіх — Іванкавых.

А Іванкаў завуць — паэтамі,
Вось і байка мая пра гэтае.

❊ ❊ ❊

*Таісіі Мельчанка*

Таіса…
Яшчэ тая, Цыганкова,
Якую стрэла ў Маркавічах я,
А потым сябравала, і з якою
Матуля сустракалася мая.

І вершы нашы слухала, і песні,
І частавала соланкай дваіх…
Шкада, што нашы маці
не ўваскрэснуць.
Як не хапае іх сярод жывых!

І нам дадому прыйдзецца збірацца.
Але ж, пакуль мы лічымся ў гасцях,
Давай хвілінку, вольную ад працы,
Сябрам перададзім сваім, як сцяг.

Як нам перадавалі нашы маці,
Нібыта свечку, што нясуць у храм,
І свае сэрцы, нібы немаўляці,
Бывала, клалі на далоні нам.

Вунь дзьмухаўцы
па-над травой трапечуць
І вучацца лятаць, як матылі.
Дык не звяртай жа
покуль што на вечнасць,
Усмешкай свае вусны асвятлі.



# Крый нас, Божа…

Не кажыце,
Што мы не хварэем свабодай,
Не шукаем для роднае мовы шляхоў,
І бяссоннае ночы
Не знаем ніводнай,
І пад крыжам сваім
Не схіляем галоў.
Не кажыце…

Не падумайце,
Што мы сягоння не з вамі
І не хочам абняцца
Ды побач ісці…
Замінаюць папрокі
У нас пад нагамі,
Як наросты каросты
На белай касці.
Не падумайце…

Не крычыце,
Што наша — крывая дарога,
Не кідайце ж у спіну,
Што Бог нам суддзя.
Бог усім нам
Заўсёды ідзе на падмогу,
Для Ўсявышняга
Кожны — ягона дзіця.
Не крычыце…

Крый нас, Божа,
Паддацца вужыным балотам
І двурушна
Плявузгаць адтуль пра любоў —
Там, дзе нашая воля

І наша свабода
Захлынуцца у затхлай
Хлуслівасці слоў.
Крый нас, Божа!

❊ ❊ ❊

Буслянку бусел будаваў
З бусліхаю вясною,
А потым дзетак гадаваў
З бусламі талакою.
А гаспадар надумаў дах
Наладзіць новы дужа,
І разбурыў буслянку ўзмах
Рукі ягонай дужай.

Упала рэха у раку
З буслiных белых крылаў…
Адбіліся, нібы ў радку,
Там зорныя сціхіры.
Іх прачытаў за рэчкай бор
Ды падзяліўся з ветрам,
Званоў пачуўся перабор,
Гамонка іх з Сусветам.

Маліўся грэшнік у царкве,
Прасіў у Бога шчыра,
Каб да яго явіў давер
І адпусціў каб з мірам.

Гасподзь грахі яго забраў
І ўсе пусціў на вецер…
А грэшнік зноў збіраць пачаў
Свае грахі па свеце.



❊ ❊ ❊

Чаму нямашака на свеце
Ніколі згоды між людзьмі?
Гуляюць у дарослых дзеці,
Не дараслі ж да дзетак мы.

І глыбіцца між намі бездань,
І век наш кане, быццам міг…
Мы вінавацім лёс у бедах,
Ды толькі не сябе саміх.

А нам бы радавацца небу,
Не наракаючы на лёс.
Ступіць у гэту бездань трэба,
Як у ваду ступаў Хрыстос.

## *Адказ*

*Лідзіі Возісавай*

Узняўшы вочы да нябёс,
Малюся я за кут свой шчыра.
Не наракаю на свой лёс,
А толькі праслаўляю лірай.

На Беларусь мой шлях бяжыць,
Адкуль бяруцца толькі сілы!
Насустрач цэркаўкі крыжы,
А вось і матчына магіла.

Усё тут ява, не падман —
І першы крок, і верш мой першы…
Магчыма, то нябёсаў план —
Мне праслаўляць народ тутэйшы.

Канечне, гэта шчасны лёс
Тут святкаваць свае радзіны,
З-пад кола выхапіць усё ж
Зямелькі роднай пупавіну.

❊ ❊ ❊

Ад кулі,
Пад вокам нядобрым вайны
Упала жанчына,
Крывавіла сэрца...
Набраклыя грудзі —
Пупышкі вясны,
Адну дзіцянё абхапіла,
Смяецца...

Яго ручаняты жывыя
Дакорам
Былі — і насмешкай
Над скінутым горам.
Ото ж было дзіва
Жахлівае:
Смяецца дзіцё,
Каля смерці
Шчаслівае...

## Песня яблыні

Мае яблыкі ўсе сабярыце,
Покуль крона мая у зеніце.
Пазграбайце увосень лісцейка,
На агні іх спаліце ўсе чысценька.
Калі трэба — старыя галінкі



Пасячыце ўшчэнт на драбінкі.
Я на ўсё у жыцці гэтым згодна!
Мне пакіньце ў зямлі толькі роднай
Карані ды адзіны пянёчак,
Што атожылкі пусціць аднойчы.

❊ ❊ ❊

Я — палонная вечнасці
З ночы самотнай!
Бы ў калыску, вятрыска
Прылёг на парог...
Разглядаць свае сны
Я не маю ахвоты.
Роем мроі вакол
Ці то пыл каля ног?
Я — палонная вечнасці.
Думкі зграбаю,
Як гарачыя вуглі,
Яшчэ да святла...
Хто заходзіцца плачам,
Ад болю канае —
Ці ў хаціне дзіцёнак,
Ці ў націне пчала?
Я палонена часам,
Хоць душою свабодна.
Нібы чайка, лунаю,
Ды што мне з таго?
На востраў бязлюдны,
Што завуць адзінотай,
Быў занесены ветрам
Ветразь лёсу майго.
Мой транзітны білет

У жыцця у палоне.
Я чакаю, пакуль
Прагрукоча цягнік...
Вось, нібы трапяткі
Матылёк на далоні,
Затрымцеў пацалунак на вуснах
І — знік...
Я — нявольніца вечнасці.
Вечар. І зоркі,
Нібы зрэнкі,
Што ў зграі ваўчынай гарэць.
Як ваўчыха, свае
Зноў залізваю болькі
І вучуся увагі
На іх не звяртаць.
Я — нявольніца вечнасці.
Ноччу самотнай
Мне ціхуткую песню
Спявае быльнёг,
Ды матуля у сне
Абдымае пяшчотна,
Дзе бялееща крыж
У сутонні дарог.

❊ ❊ ❊

Гэй ты, з касою за плячыма,
Ні маладзіца, ні дзяўчына!

Чаго пакінула магілы,
У дзверы стукаеш штосілы?

Мяне ты не заспееш дома,
Бо я ў гасцях яшчэ, вядома.



Збіраю слёзы, пацалункі...
Ці ж бачыш — цяжкія пакункі!

Чаго глядзіш так недарэчна?
Дапамажы данесці рэчы.

## Дзень добры

Ранак. Вясна. Затухае зара.
Спіць недалёка рэактар...
Дзень добры, Чарнобыль!
Нам сеяць пара!
Сонейка выкаціў трактар.

Рана яшчэ нам з табой паміраць,
Немач не дойме надзею.
Пойдзем, Чарнобыль,
Вясну сустракаць!
Дзень Велікодны. Нядзеля.

Раны яшчэ нам з табой бінтаваць,
Толькі пра гэта асобна...
Гора ў магіле адной не схаваць.
Чуеш, Чарнобыль?
Дзень добры!

Дружна вакол забуяла жыццё.
Час настае абнаўлення,
Хоць радыяцыя, нібы асцё,
Коле усе пакаленні.

Сеем любоў на палетках тваіх,
Веру з надзеяй гукаем.
Просім цярпення
У лікаў святых,
Будзем чакаць ураджаю.

## Добруш

Добруш — неруш гомельскага свету
З сонечнымі колерамі лета,
З духам старажытным рыштаванняў,
З таямніцай даўняю паданняў.

З выгінамі гожымі масточкаў,
З грушамі салодкімі ў садочку.
Добра ж як! Не зарасі сарочку
У траве купальскай цёмнай ночкай.

Кветка-папараць расце, напэўна,
У лясах у добрушскіх напеўных.
Добруш, дабрадзей добразычлівы,
Радуе усіх ракой імклівай.

У вянках купальскіх, без сумневу,
Рэчка Іпуць нібы каралева,
Добрыцца сваім пясчаным плёсам
Перад промнем золатавалосым.

Ёй радно нябёсаў лёс даверыў,
Нібы ліст бялюткае паперы,
На якім і я радок любімы
Напішу на памяць для Радзімы.

## Іпуць

Рэчка Іпуць, рэчка Іпуць,
Да цябе праменні ліпнуць,
Ліпнуць зоркі і аблокі,
Ліпне месяц адзінокі.

А бывае, а бывае,
Як ваўкоў галодных зграя,



Плойма хмарак набягае,
З ёй у хованкі гуляе.

Хваля — нібы маладзіца,
Што з карункамі спадніцу
Падымае, падымае —
Пэўна, сораму не мае.

Зарагоча гром над гаем,
Бліскавіца ж у адчаі
Акунецца ў рэчку Іпуць,
І раку дажджы абдымуць…

Як на добрушскіх паненках
Гожа мокрая сукенка!

## Скарбніца

> Салодкія мядовыя соты, і добра — цукар, але ж абаіх лепей кніжныя веды…
>
> *Кірыла Тураўскі*

Дзе дух радзімічаў маіх лунае
Над Сожам, нібы легкакрылы птах,
Ёсць скарбніца славянская, якая
Схаваная і ў словах, і ў радках.

Залатавусту дзверы адчыніла,
Ягоныя малітвы зберагла.
У нашых сэрцах свечку запаліла,
Каб не цураліся свайго жытла.

Каб да яго імкнуліся славяне,
Ядналіся суседзі: бранчукі,
Гамельчукі, яшчэ — чарнігаўчане,
На доўгія гады, на ўсе вякі.

Знаходзіць кожны тут камень каштоўны,
А ў некага адкрыўся нават зрок...
Тут розум, нібы келіх, думкай поўны
І Вечнасць нам сама дае урок —

На мове дружбы,
самай лепшай мове,
Якую змог прыдумаць чалавек,
Якая пачынаецца з любові
І нас ратуе, нібы абярэг.

❊ ❊ ❊

У цянётах памяці блукаю,
Ды шукаю я ўчарашні дзень...
На двары паводка веснавая,
Шпацыруе сонечны прамень.

Дзе адтала купіна, там чынна
Чарапашка выплыла пасля.
Ёй ласкава промень гладзіў спіну,
На далонях на сваіх люляў.

Жабяняты вылупілі вочы
І зайздросна квакалі ў адказ,
А ў цянётах памяці дзявочай
Рэха адазвалася не раз.

І на белых на бусліных крылах
Паляцела рэха без клапот...
А ў прыполе Беларусі мілай,
Як дзяўчынка, чырванеў усход.



❊ ❊ ❊

Зорная ноч...
Млечны Шлях адмысловы
Ночы на плечы лажыцца
Абновай.

Свецяцца, свецяцца
Вокны паэта.
Сэрца расчынена
Насцеж Сусвету.

Верша бутон —
Летуценнае дзіва!
Хто яго ўбачыць,
Той самы шчаслівы.

Раніца промні распырсквае.
Зоркі
Буйнай расой ападаюць
У зёлкі.

Дрэмлецца ўсмешцы
На вуснах паэта,
А пад шчакою —
Пялёсткі санета.

## Я хацела б вярнуцца...

Я сумую па лесу
Ля роднае вёскі —
Лог ваўчыны там ёсць,
Норы розных звяроў.
І па Ведзерках* хвойных,
Дзе з цёткаю Лёксай
Калісь пасвіла статак
Рагатых кароў.

Выціраў мае слёзы
Лісток верасовы,
Як сабе на ілбе раз
Нагнала гузак,
Калі бегла праз гай
Ад бадлівай каровы
І упала знянацку
На круглы дзічак.

Я б хацела б вярнуць
Палыновыя сцежкі,
Дзе на клавішах бору
Іграе прамень,
А пад елкай густою
Сядзяць сыраежкі,
Як бабулькі на прызбе,
Схаваўшыся ў цень.

Я хацела б вярнуцца
У зорнае неба,
Там, дзе палуба месяца,
Ветразь аблок,
Адкуль падаюць зоркі

* Ведзеркі — урочышча ля вёскі Пракопаўкі.



У пульхную глебу,
Дзе струменіць Шлях Млечны,
Як горны паток.

Я хацела б вярнуцца
Да роднае хаты,
Дзе забраўся быльнёг
На бацькоўскі парог.
Дзе сябе адчуваю
Крыху вінаватай,
Што забруджана студня,
Ручай перасох...

## Паплечнікам

Чаму на ніве нашай недарод?
Чаго такі лядашчы умалот?
Калі ж свайго Прарока назавём,
Які агучыць родным словам дом?

Во толькі быў навідавоку ён,
Наўколенцы стаяў паміж ікон...
Народ забыў яго, нібы забіў,
А ён жа гэтак свой народ любіў.

Вазьму ў зарок ягоны слых і зрок,
Народзіцца ў народзе зноў Прарок!
Часопісь беларуская тады
Радком чырвоным ляжа праз гады.

Купалле ўсюды развядзе кастры
І праз стагоддзі навядзе масты.
І рэкі паўнаводныя вякоў
Вянкі люляцьмуць з сініх васількоў.

І ў каляіне нашай прарасце
Свабода ва усёй сваёй красе.
І скіне путы і ярмо народ,
Пачнецца з кветкі-папараці род.

## *Слова прарока*

Прымаю ў свой бок я — адзіны
І справядлівы папрок:
— Чаму адцураўся радзімы,
Калі насамрэч ты прарок?

Мой бедны народ!
Ты ж прымусіў
Імя адцурацца свайго.
Стаю, як ля селішча бусел,
У багне адною нагой.

Давай выбірацца абодва!
Не трэба віноўных шукаць,
А гуртам да ўласнага роду
Гаціць, як да селішча, гаць.

❊ ❊ ❊

Стараюся, ды не спраўляюся,
Не разабрацца мне ва ўсім...
Са свайго шчасця пасміхаюся,
Радуюся — над чужым.

Вы скажаце, што глупства гэта
І што ніякі не сур'ёз,
Нібыта ўбачыць гурбу летам
Альбо зімою сенакос...



Насупраць, вунь, стаіць падлетак,
Глядзіць з хітрынкаю на свет,
Нібыта класік ён з партрэта,
Нібыта свет — яго партрэт.

Ну што глядзіш? Як ні старайся,
І ты пакінеш белы свет,
Хоць век маліся ты і кайся,
Хоць пражыві як прайдзісвет.

## *Мудраголікі*

### *Жарт*

Сябры мае, мае паэты,
Вы — мудраголікі мае.
Пара даўно ўжо спаць,
Ды дзе там!
Заснуць вам
Розум не дае.

Ну хто б падумаў,
Што і вершы
Бываюць мулкімі парой?
Пакуль напішаш самы лепшы,
З дурною ходзіш галавой.

Віецца думка так і гэтак,
Каб хоць вужакай — на Парнас...
Не прызнавайцеся, паэты,
Бо засмяе дзіцёнак вас...

❊ ❊ ❊

За снапамі рагочуць гусі.
Не чапай мяне, гэткі грэх...
Ты мне бусю,
Я — бусю-бусю,
Набусякалі цэлы мех!

Нічагусенькі не баюся,
Толькі слёзы змахну з павек...
Мой раднуся, мой сівы бусел,
Найдарожшы мой чалавек!

Не паклічаш —
Не адгукнуся.
Маё шчасцейка — матылёк.
Мой рахунак — качан капусты
Ды ад вусеня поўсці клок.

На чыёй там хаціне бусел
Буслянятам дае урок?
Вы мне — бусю,
Я — бусю-бусю,
З бусі жабіна —
Ды ў раток!

На буслянцы клякоча кузня,
Толькі лётае малаток.

## *Балада Месяца*

Я — бадзяга Сусвету,
Па чорнаму мору начы
Адплываю
На хвалях аблокаў у неба.



Мне чутно ўсё на свеце:
Як грэшнік у пекле крычыць,
Як жалобна ў раі
Клічуць матак забытыя дзеці.

Мая доля — прыволле.
Струменіць, нібы вадаспад,
У нябёсах Шлях Млечны
Ды пырскаюць зоркі...
Бачу коней ля рэчкі,
Кучаравых ля іх цыганят.
Каля вогнішча пошчак
Вясёлай цыганскай гаворкі.

Адгукнецца ёй дружна
Вясёлае птаства ў гаях...
Я спяшаю схавацца
Ад сонечных промняў за хмару...
Хваляванне маё
У людскіх адлюструецца снах,
Адзавецца яно
У хлапечых далонях гітарай.

Уцякаю туды,
Дзе цямнее яшчэ далягляд,
Скуль мае пачыналіся
Светлыя мары,
Дзе яшчэ прадаўжаецца
Зорны нябёсаў парад,
Дзе не спяць уначы
Закаханыя юныя пары.

Я — нашчадак Сусвету,
Я — вечнага часу сваяк,
Мой адбітак —
Ракі срэбразвонная сцежка.

Я гляджу ў тыя вокны,
За якімі дзівак —
Неўгамонны паэт —
Занатоўвае гэтыя вершы.

## Вечнасць

За кропляй кропля жыццейка знікае,
Нібы з-пад каменя струмень вады...
То набяжыць, то зноў сарвецца з краю
І зоркаю знікае ў нікуды.

А вечнасць засядае, як царыца,
На троне ўсіх часоў, вякоў усіх,
І слухае, як дзень за днём імжыцца
Скрозь рэшата аблокаў трапяткіх.

Выглядвае ахвяру, мітусіцца
За хмараю, нібыта за кутом,
І забывае, што яна — царыца,
Ды як зладзюжка пранікае ў дом.

Бывае, што крылатая, як птушка,
Яна гняздуецца ў тваёй душы.
Напеў крынічны на далонях гушкае
І гук за гукам падае ў цішы.

За кропляй кроплю жыццейка губляе,
Пялёстак за пялёсткамі — сады.
За хмаркай хмара ў небе праплывае,
А дождж пусціўся ў скокі, як заўжды.



* * *

Ты цалуеш мне рукі,
Але пальцы мае — ледзяшы.
Ты цалуеш мне сэрца —
Як дзічак маё сэрца ляжыць.
Хоць заціхнуў мой боль,
Там нікому гняздзечка не звіць.
Свечка гасне...
Дазволь — адпачыць.

## Расстанне

Адышлі, адышлі залатыя світанні,
Адышлі, адышлі залатыя дзянькі...
Па самотнай рацэ пад назовам расстанне
Не вяночкі Купалля, а жалобы вянкі.

Адчуваю зямельку я целам і сэрцам —
Што адзіная дадзена нам на вякі.
І скупою слязой нехта там адзавецца,
Да маёй датыкнецца да мокрай шчакі.

Ой паплачу па маці, па бацьку паплачу,
Па сястрычках маленькіх, па сябрах сваіх...
Хоць сягоння для іх я нічога не значу,
Але ж як не хапае родных іх, дарагіх!

А самота турбуе, а самота няволіць,
І малюе Малевіч свой чорны квадрат,
Ды ніколі-ніколі сум душу не спатоліць,
Як і дым, што плыве па-над дахамі хат...

* * *

І не трэба мне звонкае медзі,
Не прыцягвае золата бляск.
Мне насустрач — чужына ў суседзі,
Наўздагон толькі воплескаў ляск.

Не паспела прысесці, падумаць,
Не змагла я свой час прыпыніць,
А крумкач у душы з майго суму
Змог гняздо сваё чорнае звіць.

Воч з мяне ён, пракляты, не зводзіць:
Ці баіцца, ці не — варажы!
Азірнуся я — ціша дый годзе,
Толькі голька ад ветру дрыжыць.

А ў гняздзечку ёсць крумкачаняты,
Ды аб гэтым не знае ніхто...
Перад птушкамі я вінавата,
Не люблю я вось гэта гняздо.

Развярэдзіў душу, растрывожыў.
Яшчэ, можа, накліча бяду...
Я прашу цябе, праведны Божа,
Памажы акрыліць чарнату.

Птушаняты на ногі хай стануць,
І Нясвіж абжывуць, не Парыж...
Прычыню я ў душы сваёй рану,
Панясу, не збаяўшыся, крыж.

І не трэба ні медзі, ні срэбра,
Ані шумнае славы і слоў...
Нада мной — зліток сонца у небе
Ды жыццёвая мудрасць вякоў.



## Пакуль

Радуюць вочы зорнае ночы палотны,
Срэбныя краскі кладуцца на цемру свабодна.
Шляхам Птушыным прасочацца часу пісьмёны,
Зіматочацца знічкай нябеснай іконы.

Там, на Гасподніх слядах, мы сустрэнемся з вамі,
Тыя, каго пуцявіны ў дарогу пазвалі,
Словам малітвы сустрэнуць усіх нас анёлы,
І пасвятлее ад крылаў бялюткіх наўкола.

Потым навучаць пісьмёны чытаць небасхілу,
І за плячамі прарэжуцца ў кожнага крылы,
Рэхам адклікнецца Шляху Птушынага далеч,
На гарызонце — аўтографаў нашых скрыжалі.

Людзі падымуць уночы бяссонныя вочы
І прачытаць нашы знакі аднойчы захочуць.
...Ну а пакуль што ў жыцця я сягоння ў палоне,
Скінуў анёл мне пяро сваё проста на скроні.

# Гаворка з небам

## Санеты

1

Як снег, такая чыстая і белая
Была кашуля новая ў матулі,
На белае і вымытае цела
Па святах адзявалася кашуля.

А бацька пчаляром праслыў умелым,
І аж свяціўся белым мёдам вулей…
А ля суседкі нашае Ганулі
Гай беластвольны гоніць голле-стрэлы…

І цэліцца ў нябёсы пышнай кронаю,
А промні сонца — у лісцё зялёнае,
Туды, дзе высіцца над рэчкай гаць…

Там ручнікі зацалаваны росамі,
Бялюткія, як снег, аж зіхацяць…
І не як снег — яшчэ бялей бярозы.

2

І не як снег — яшчэ бялей бярозы,
Якімі перапоўнены мой край.
Красуюцца пад вэлюмам нябёсаў,
Хоць ты іх сёння замуж аддавай.

З далоняў рэчкі п’юць туман бялёсы…
Відаць — славянкі будуць чыстакроўныя:
Бялюткі стан і валасы шыкоўныя!
І грудзі белыя ў крамяных росах…



Аж свецiцца бярозавы мой край!
Я згодна, ёсць на белым свеце рай,
І ён схаваны ў гэтым царстве белым.

Убачыць гэты рай я так хацела,
Дзе сок салодкі льецца цераз край,
А кветак ля бяроз — настольнік цэлы.

3

А кветак ля бяроз — настольнік цэлы,
Жанчыны побач ручнікі паслалі,
Яны і тут без працы не сядзелі,
Перабіралі ордэны, медалі…

Птушыным спевам прарастала ціша,
Вайны падлескі белыя не зналі…
Было чуваць, як уздыхае далеч,
Як рэчка лодку, бы дзіця, калыша.

А хвалі дзён плывуць у белы свет,
Гайдаюць гнёзды белыя бярозы,
І белы след знікае ад ракет…

І узыходзіць знак бусла над плёсам…
А ў зрэнках адлюстроўваўся букет
Рамонкаў светлых, трапяткіх, як слёзы.

4

Рамонкаў светлых, трапяткіх, як слёзы,
Купіла і прынесла мне дачка,
Ужо павысыхалі на іх росы,
І мокрай не ад іх была шчака.

Ад успамінаў і ад слоў шчымлівых,
Якія бацька ёй з вайны пісаў…

Загінуў ён. Тады мая краса
Зацерушылася журбой імклівай.

А помніцца, адбіліся на целе,
Як знакі старажытныя вякоў,
Жывыя кветкі... І ў траве бялелі...

Пераліваліся пялёсткамі, зіхцелі,
Нібы рамонкі хто праліў з глякоў...
І не рамонкі, пэўна, — малако.

5

Так, не рамонкі, пэўна, — малако
Тут пралілі з саскоў бухматых козы,
Што мусілі ўцякаць ад пастухоў
З дальказыкам і пугаўём з бярозы.

Як малако, такія з лёну белыя
Былі ў маёй матулі ручнікі,
Якія выткаць толькі маці ўмела,
Ды так рабіла, быццам на вякі.

Вось так, навек, дык і любіць не грэх,
А шчасце накананае лёсам,
І чым мацней — званчэй дзіцячы смех...

А шчасцейка — да лодкі новай вёслы,
А ў лодцы той агукае дзіцёнак,
Які бялей за снег і за рамонак.

6

Дзіця бялей за снег і за рамонак,
За малако, што ён з дзяцінства піў...
Як падрасце, то паляціць да зорак,
Як і Гагарын, можа, нам на здзіў.



І можа, пракладзе раллю у небе
Ці хлеб пасее на сваёй зямлі,
Адчуе, што на свеце ён патрэбен,
Які чамусьці белым нараклі.

Пайсці у белы свет як у капейку,
А значыць, гэты свет — наш вечны дом,
Як вечна малако, што змалку п'ём...

Як вечна неба сіняе у зрэнках,
Як непазбежна — збітыя каленкі,
Як сад малочны за маім акном.

7

Не малако, а сад, што за акном
Вясною пасадзілі ўсёй сямейкай,
Заліў быў квеценню бацькоўскі дом
І дом суседскі кінуты старэнькі.

Дарэмна зазывалі салаўі
Тут пасяліцца зноўку закаханых
Ды пеніўся хлявок квяцістай ранай,
Захізнуты*, хіліўся да зямлі.

Пагудка ходзіць, што тут жыў музыка,
Хацеў жаніцца на вядзьмарцы дзікай,
Ды на вяселлі свой згубіў пярсцёнак...

Дзірван кругом ды чарнабыльнік спрэс,
Куст уцалелы толькі — белы бэз,
Цвіце, такі прыгожы, як дзіцёнак.

* Захізнуты — зачахлы, заняпалы.

8

Цвіце, такі прыгожы, як дзіцёнак!
І водар хусткай абдымае плечы,
І шапятункі* чуюцца старонак —
Гаворка з небам доўжыцца аб вечным.

Ды таямніцу сцеражэ быльнёг,
Ён бэзу спавядаецца аб нечым,
І ахінае з галавы да ног
Мяне духмяны белапенны вечар.

Заходзь любы, на белы свет любуйся,
На выбелены часам нечы твор —
Занатаваны салаўіны хор...

І белы свет пялёсткам белым рад
І міласэрны, як вясновы сад...
Не толькі сад, а нават неба, мусіць.

9

Не толькі сад, а нават неба, мусіць,
Квітнее сонцам, а ў начной цішы —
Шыпшынай белаю над Беларуссю
І Млечным Шляхам зорыцца ў глушы.

І слова нараджаецца ў душы,
Крыніца прабіваецца на волю,
Струменіцца і набракае голле
У яблыні старое ля шашы.

Тады прысядзь, не дыхай і пішы,
І завязі сусветнай не губляй,
І волю неба на Зямлі вяршы.

* Шапятункі — шушуканне.



У лік святы ўглядзіся утрапёна
І зразумееш, па чыіх законах
Благаслаўлёны беластволы гай.

10

Благаслаўлёны беластволы гай,
Багаты на крамяны баравік —
Ці белы грыб, як хочаш называй,
Абы той грыб і гай адсюль не знік.

Пра атамны я не хачу і чуць...
І дай жа Бог, каб не пачула больш.
Хаця чарнобыльскі сусветны боль
Мяне крануўся асабіста ўсё ж...

Збіраю я з аглядкаю грыбы
І ягадкі смакую і баюся,
Але ж не адракуся ад сяўбы...

І роднага Палесся не зракуся.
Тут засталіся і мае сябры,
І немаўлятка белае, і бусел.

11

І немаўлятка белае, і бусел
Усё радзей здзяйсняюцца, зважай...
Маруся, і Ганузя, і Настуся —
Сваёй замовай настаю вам чай.

— Ляці да Беларусі, белы бусел,
Балотамі, лясамі, бальшаком...
Кладзі дзіцятка там, дзе белы вусень
Грызе капусту белую цішком.

Няхай капуста родзіць у Настусі,
І у Ганусі, і ў маёй Марусі,
Там немаўлятка завядзецца хай…

Як хлопчык — бацьку будзе хай памочнік,
Калі дзяўчо — як ружа будзе хай
Што ў кіпені садоў гадуе май…

12

У кіпені садоў квяцісты май…
Сузор'е святаў і любві народзін,
Якое хочаш свята выбірай,
Ідзі насустрач радаснай прыродзе.

Гукай вясну і забаўляйся шчасцем,
Якога доўга ты не заўважаў,
Пакуль ты кветку-папараць шукаў
За морам — і сабе не прызнаваўся.

Пакуль не захварэў без роднай рэчкі,
Без белых тумανоў, духмянай грэчкі,
Без бусла даўганогага на лузе…

Без старажытных замкаў Радзівілаў,
Паскевічаў, што белы свет здзівілі,
Бо гэта ўсё завецца Белай Руссю…

13

Бо гэта ўсё завецца Белай Руссю:
І Шклоў, і Гомель, Гродна і Мазыр,
І вёсачка, з якой не надзіўлюся,
Дзе старажытны храм і манастыр…

Там «кіншчык» — развясёлы дзядзька Коля —
Клуб выкупіў і круціць сам кіно



Ды робіць венікі… Катам раздолле:
Тут вераб'і жывуць даўным-даўно.

Ці дождж па даху скача, свішча вецер,
Ці снег віхурыць — тут усё адно
Хвасты катам, бывае, круцяць дзеці…

А дзядзька Коля круціць ім кіно.
І паглыбляюцца ў ягоны рай
І снег, і кветкі, і бацькоўскі край.

14

І снег, і кветкі, дзе бацькоўскі край,
Аднолькава мне дарагі і мілы.
Захочаш — снег і зіму выбірай,
Ці летам цёплым набірайся сілы.

У храме Божым памаліся ты —
І скінеш груз грахоў сваіх шматлікіх,
Перад прачыстым Божай Маці лікам
І сам на міг становішся святым.

Мы далучаемся да тайны смела,
Па моры акі посуху ідзём,
Не адчуваючы цяжару цела…

І, рызыкуючы сваім жыццём,
На бераг неба ісціну нясём,
Як снег, такую чыстую і белую…

15

Як снег, такая чыстая і белая,
І не як снег — яшчэ бялей бярозы,
І не бярозы, а настольнік цэлы
Рамонкаў светлых, трапяткіх, як слёзы…

І не рамонкі, пэўна, малако —
Яно бялей за снег і за рамонак,
Не малако, а сад, што за акном
Цвіце, такі прыгожы, як дзіцёнак...

І не як сад, а будзе небам, мусіць,
Благаслвёны беластвольны гай,
І немаўлятка белае, і бусел...

І ў кіпені садоў квяцісты май...
І гэта ўсё завецца Белай Руссю —
І снег, і кветкі, і мой родны край!

# Зорная пільніца*



* Пільніца — гарачая летняя пара, пачыналася з сенавання — нялёгкай, але вясёлай і амаль святочнай работы.

*З кнігі «Мая вёска», 1971*

## Беларусь, маё шчасце

Беларусь, маё шчасце!
Ты — Айчына мая,
Мая родная маці.
Я — дачушка твая.

Ці то травы у росах
Навяваюць спакой?
Ці то матчыны косы
Я кранаю рукой?

Ці то — зоры уночы
Зіхацяць у акне?
Ці то матчыны вочы
Усміхаюцца мне?

Ці то рэха у хаце
Размаўляе у сне,
Ці то маці дзіцяці
Калыханку пяе?

* * *

Дачка я сялянкі, мой нораў — сялянскі,
З дзяцінства ў пракудах упартай была.
Калі ж частавалі лазоваю ласкай —
Мой крык у другім канцы чулі сяла.

Як стала дарослай — дарогі каменне,
Здзіраючы скуру, кацілі, зато
Маўчу я цяпер, не згінаю калені…
Маёй перамогі не бачыць ніхто!



## Родная мова

О мова мая, мой ратунак!..
Яшчэ немаўляткам бязглуздым
Цябе, як найлепшы гатунак,
Піла я з матуліных вуснаў.

А ты забаўляла напевам
Ды хлебам ад зайчыка з таткам,
Гудзела гліняным пеўнем,
Гулялася ў ладачкі-ладкі.

Я чула, як пысай цёлка
Расу на пялёстках цадзіла.
Звінелі на промнях вясёлкі,
Садзіліся птушкам на крылы.

Сабраць бы ўсе фарбы і гукі
Ў адну непаўторную гаму!..
Да сонца працягваю рукі,
Выгукваю голасна: «Мама!»

Дык вось яно — першае слова!
Яму адгукнулася слаўна
Мая беларуская мова,
Сусветная мова славянаў.

## Мая вёска

Дзе ты, дзе ты, мая вёска?
На зямным вялізным шары
Сярод квецені пялёсткаў
Загубілася ў абшары.

Але я знайду заўсёды,
Нібы ўзор твой вышываны,

І гусіныя чароды,
І блакітныя туманы.

Забягу ў алешнік ліпкі,
Афарбую рот малінай.
Там растуць малыя ліпкі
За красуняй-арабінай.

Запляту бярозкам косы,
Упляту рамонкі-кветкі...
І прамень заўважу босы,
Зіхатлівы за палеткам.

На свае убачу вочы:
Ты, як матчынай рукою,
Ахінулася з паўночы
Цёплай рэчкай Церухою.

Чую крык твой жураўліны
І ад радасці спяваю:
— Любы-дарагі мясціны!..
Церусіцца рэха гаем.

Лёс дзявочы, мая вёска
На зямным вялікім шары
Сярод квецені пялёсткаў
Не згубілася ў абшары!

## *Родная хата*

Хата з саламянаю страхою
Закурыла ў цішыні садоў,
З коміна дым выгнуўся дугою
З пахам перасмажаных грыбоў.

Яблыня зялёнаю хусцінкай
Ахінула плечыкі свае.



Павуцінка падае сняжынкай,
З яблыкам знікае у траве.

І гукае маці ўжо вячэраць...
Чуцен смех дзіцячы, галасы.
Пасля гульняў смачна так яшчэ раз
Бульбачкі з грыбамі пад'ясі.

Зорачкі-гарэзы, як смяшынкі,
Весела мігаюць ліхтару.
З палявання кот ідзе сцяжынкай,
Вусы закруціўшы угару.

На другія казкі, хоць на дзесяць,
Я не памяняюся з маёй,
Дзе бяроза белая і месяц,
Хата з пасівелаю страхой...

❊ ❊ ❊

Мне не так ужо многа і трэба
Дзеля ўзлёту на сёмае неба.
Дайце толькі мне клін жураўліны,
Дайце толькі мне клёкат буслiны,
Дайце ўсмешку каханых вачэй
Ды спакусу мядовых начэй...

❊ ❊ ❊

Збіраю шолахі
Вятроў і траў,
І ліўняў подыхі,
Што май прыслаў.
Раку з бяздоннай

Глыбінёй
Мяшаю з зорнай
Вышынёй…

Радкі, як пчолка,
Свае збіраю,
Што выйдзе толькі —
Пакуль не знаю.

## Айчына родная

Перабіранкамі
Лугі расквецяцца,
Агнямі яркімі
Суніцы свецяцца.

Дзяўчо нясмелае
Нясе ў прыполіку —
Расчырванелае —
Суніцы з Воленкі!

Ляснымі сцежкамі
Панаблукалася
І сыраежкамі
Наласавалася!

Іду — свабодная…
Ды раптам — опанькі!
Карова подбегам
За мной ля копанкі!

Па дрэвах росамі
Мой крык развеяўся,
На лоб бярозавы
Лісток прыклеіўся.



Айчына родная,
Край беларускі мой!
Ракой пяшчотнаю
Плыве удаль спакой.

❊ ❊ ❊

Я тут пасадзіла саджанец —
Каб падалі гранаты
З яблыні,
Каб хрумсталі дзеці
Яблыкі,
А ў гняздзечку дупляным
Жаўтароцік бухматы спаў…
Каб снілася неба яму,
А зоры-рамонкі нізка
Спявалі сваю калыханку
Пра воблакі і пра сонца…
Каб гэтая добрая яблыня,
У якой ён жыве за пазухай,
Паціху яго калыхала
І вартавала сон.
Не для таго пасадзіла,
Каб нелюдзі злыя аднойчы
Спалілі дрэва з хацінаю
І з крыкам тваім жахлівым,
Сыночак мой!..

## Бяссмерце

*Памяці Ю. Гагарына*

I

Няпраўда!
Не веру!
Не чапайце,
Шчытна закрыйце дзверы...
Не ве-е-еру-у!

Не мігайце, не трэба,
Не сляпіце мне вочы, зоры.
Чаму вы пакінулі неба?
Яно пачарнела ад гора!

Не працягвай
Сваіх старэчых далоняў, цемра!
Не суцяшай!
Дарэмна!..

II

Хіба ж бывае цямрэча
Ў раі?
Хіба ж бывае?
Слёзы — ці соль
На твары нябёс праступае.
Слёзы ці соль?

Росамі боль
Голас Гагарына тут рассыпае.
Росамі боль...



Боль зараніцай
Успыхне ў сіняй прасторы,
Боль-зараніцай...

Стрэнем світанне
На сцежках сузор'яў,
Каб падзівіцца,
Як недалечка
Сонца звіло, нібы птушка, гняздзечка.
Тут недалечка...
Як разлагодзіцца ноччу над рэчкай
Поўня — яечкам...

Космас акрэсліць, бы на паперы,
Зорную шэрань.
Тую, што Юрый Гагарын
Надоечы змераў.

...Не веру! Чакайце!
Зараз адкрыю я дзверы
Ў хаце...

## Смага

П'ю ваду я з калодзежа зноў,
І гляджу, як, сабраўшы ўсе сілы,
Цягне трактар заранку дамоў,
Дзе жыве аднагодак мой мілы.

Ён за руль свой садзіцца штодня,
Там, дзе сёння араў, можна ўбачыць,
Што трымае ў абдымках ралля
Сваё зернетка, як немаўляці.

Мацярынства святое зямлі
І адчайнасць юнацкіх пачуццяў

Тут сплятуцца, нібы карані,
І людская акрэсліцца сутнасць.

...Ціха-ціха ў блакіце было.
Поўня — сподак, а неба — крыніца,
Што напоўнена плынню гадоў
І з якой аніяк не напіцца!

## Маці

Печ запаліла ты ў хаце,
Дымком твае рукі пахнуць...
— Дранікі, дзеці! Давайце,
Ешце хутчэй, прачахнуць!

Кліча матуля снедаць...
Ляцець бы на гэты вокліч,
Як і ляцяць непаседы,
Я ж адказала: «Не хочу!»

Мне б да рук тых ласкавых
Прытуліцца шчакою
Ды ля печы рухава
Працаваць з чапялою.

Мне б самой устаць раненька,
Калі спіць маці соладка,
І напячы тых дранікаў,
І наварыць бы соланкі.

Ды на стол бы паставіць
Соланку з цёплаю парай,
Зверху — укроп, засмажыць
Сала, цыбулінак пару.

Выцерці б рукі, як маці,
Аб фартушок квяцісты...



— Пахне смачненна ў хаце! —
Скажа матуля ўрачыста.

Кубак нальле сыраквашы,
Есці дранікі будзе,
Потым суседцы раскажа,
Нібы аб нейкім цудзе.

❊ ❊ ❊

Уцякло маленства —
Змейкі тонкіх кос,
Збітыя каленкі,
Ластаўчыннем* — нос.

І калі ж ты вырасла
Сярод лялек тых,
Што пад стол закінула —
Мілых і... пустых?

Вось табе рука мая,
Будзем сябраваць,
Каб пустымі лялькамі
У жыцці не стаць.

## Рукі

Розныя рукі на свеце:
Цёплыя, быццам прамень,
Рукі сяброў і суседзяў —
Імі напоўнены дзень.

---

* Ластаўчынне — вяснушкі.

Рукі хірурга — вера
Ў радасны свет жыцця.
Рукі матулі — мера
Вечнага пачуцця.

Іх не астудзяць сілу
Ні маразы, ні вятры.
Дай жа ім, Божа, сілы
Толькі дабро тварыць.

* * *

...А некаторыя глядзяць з усмешкай
І безнадзейна галавой ківаюць:
Маўляў, бацькоўскія пазарасталі сцежкі,
І мову матчыну ўжо забываюць.

Мне крыкнуць хочацца такім няверцам:
— Ідзіце прэч!
Не рушце больш ніколі
Вы мовы той, якая ў самым сэрцы!
Не пасыпайце маю рану соллю...

Я вам услед глядзець нядоўга буду
І ад жабрацтва вашага жахацца...
Навошта выдумляць яшчэ Іуду?
Вас аніякая не пройме трасца!

* * *

Нясе мяне нялёгкая —
Машына грузавая! —
У вёсачку далёкую,
Што дзень і ноч гукае.



Яна, як сэрца, стукае
Даспелымі арэхамі.
Матуля там унукаў
Чакае як уцеху.

Чакаць ёй доўга прыйдзецца —
Не замужам дачка яшчэ...
А маці ўнукі трызняцца,
Дык значыць — дачакаецца!

## І тады я не буду маўчаць...

Калі маму сваю пацалую,
Мне захочацца вельмі спяваць!
Хай на вуліцы зімка лютуе,
Завіхурыцца снежная раць —
Я ўсё роўна не буду маўчаць!

І тады я не буду маўчаць,
Калі сэрца ад крыўды баліць,
Калі рвецца бадзёрасці ніць,
Шапятункамі сум зіхаціць
На павеках густых капяжоў...

Спасцігаючы музыку слоў,
Гаварыць буду вершамі зноў!

## Пашкадуйце

Не жалейте вы меня — я выживу!
*З прачытанага*

Мёртвыя жывым не спачуваюць,
А жывыя рады не даюць...
Дужыя заўчасна паміраюць,
Слабыя таксама ледзь жывуць.

...Пашкадуйце, людцы, я не выжыву:
Шчырай маладзіцай ці бабуляю,
Маці адзінокаю, пакрыўджанай —
Не слабой, не дужай, а прачулаю.

Пашкадуйце вы мяне — не выжыву,
Жонкаю нявернай ці любоўніцай,
Ці, як людзі кажуць, трэцяй лішняю
У жыцці даўгім, нібы бяссонніца...

Мёртвыя жывым не спачуваюць,
А жывыя рады не даюць...
Пашкадуйце толькі — акрыяю.
Ці ж дарэмна нас людзьмі завуць?

## Дабрата

Жыццё мяне пераіначыла,
Хоць ад бацькоў сваіх у спадчыну
Я мела толькі дабрату...
І — раздала ўсю на ляту.

Цяпер самой яна мне трэба,
Ды не купіць, як бохан хлеба,



Ні выпрасіць, ні ў доўг узяць,
Ні на рублі не прамяняць.

Мне б разгадаць сакрэт такі:
Як зберaглі яе бацькі?

❊ ❊ ❊

*Ю. Фатневу*

Напісаць хацела пра вайну...
Засмяялася дзіця спрасоння —
Выйшаў верш пра шчасце і вясну,
Хоць і восень за акенцам сёння.

Напісаць хацела пра бяду,
Ад якой яшчэ балела рана...
Кукарэкнуў певень у садку —
Задыміўся ў вершы маім ранак.

Напісаць хацелася пра зло,
Ды сястрычка, на калені ўзлезшы,
Прытуліла да ілба далонь, —
Дабрата з'явілася у вершы...

Напісаць хацела пра цябе,
Ды цягнік спыніўся ля вакзала,
Ты прыехаў!.. Грушы на вярбе
Красавалі!.. І я ўсе сарвала.

❊ ❊ ❊

Трымаю ў руках я
Нябёсаў сінечу!
Там, дзе спачывала
Сумётаў галеча,
Сярод аблачынак-снягоў
На узлеску,
Нібыта дзіцячая ясная ўсмешка,
Праклюнуўся парастак
Першай пралескі...
І гэтую зараз
Трымаю красу я —
Пралеску лясную!
Трымаю —
Вясну я!

## *Я ведаю...*

О, я ведаю,
Я шчаслівая,
Маё шчасце са мной, у хаце...
Хай жа будзе
Мядовай ніва,
Што засеялі нашы маці.

О, я ведаю —
Я прыгожая,
Ты мне гэта сказаў з ахвотай.
Хай жа будзе
Мядовым ложак
І напоўнены, быццам соты.



О, я ведаю,
Ты — багаты,
У калысцы твае дарункі...
Самы лепшы ты ў свеце
Тата,
Тваё золата — пацалункі.

## *Хачу быць...*

Хачу быць гаспадыняю тваёй,
А хочаш ты, дык стану я рабыняй.
Магу яшчэ быць самаю святой
І палкаю, да сораму, рабінай!

Але калі б я і была святой —
Я б, пэўна, грэшнікам цябе зрабіла,
Каб тайна між табой і мной, нямой,
Была, нібы зарослая магіла.

Але калі б я грэшніцай была —
Цябе б святым апосталам зрабіла,
І доўга б я манахіняй жыла,
І, як у Бога, літасці прасіла б!

Магу яшчэ быць я сама сабой,
Калі са мною любы мой мужчына.
Хачу быць я адзінаю тваёй —
Жанчынай...

## Боль

Белы ліст да мяне на калені,
Нібы воблака, ціха прысеў...
Там твае праліліся сумненні,
Косы почырк ці дождж шамацеў?

І не трэба цадзіць, як праз сіта,
Боль, што можа ураз апячы.
Мы таксама не лыкам шыты,
Мы надзенем на боль абручы.

Мы сашчэпім так пальцы, што цені
У смяшлівых вачах замігцяць...
Я смяюся. Трымаюць калені
Белы ліст і... не хочуць трымаць!

## Роздум

Нема вачыма вокнаў
Ноч глядзіць на мяне,
А за вокнамі — поплаў,
Месяц застыў у акне.

Рукі пад барадою,
Локці глядзяць убакі...
Крочу з Бяссонніцай зноў я
Да цябе напрасткі.

Раптам усё зразумееш,
Што без мяне ты — не ты...
Раптам мяне абнадзееш —
Знак падасі з нематы.

Певень прачнуўся на седале,
Ранак азваўся яму.



Хто ж замяце начны след мой?
Я папрашу зіму.

Выйду я, выйду на ганак,
Следа няма ўжо нідзе!
Мы з табой — ноч і ранак,
Нас аб'ядае дзень.

## Світанне

За цёмнаю хмарай
Хаваюцца зоры,
Дзень з новаю марай
Сустрэўся учора.
Спаткалася ночкай
У зорнай спадніцы
З паглядам дзявочым —
Зара-маладзіца.

Дзянёк наш яскравы
За ёю пайшоў,
Цнатлівасць у травах
Заранкі знайшоў.
І ноч пабялела,
Стаілася ў цішы.
Яна зразумела:
Была трэцяй лішняй.

## Прыходзь

Можа, хмара сонейка схавала?
Дык жа не, такога не было...
Ці пяшчоты ў тваім сэрцы мала,
Бо адкуль жа гэтакае зло?

Як малы, злуешся на мяне ты,
Толькі што не плачаш гэтак гучна.
Думаеш, змагу я без цябе тут?
Думаеш, хачу цябе я мучыць?

Я табой напоўнена, як поўня.
І калі б не стала ў небе сонца —
Ты б свяцілам быў маім галоўным
І надзеяй дзён маіх бясконцых...

Дык хутчэй прыходзь, чаго чакаеш?
Будзе лепей так абодвум нам:
Адамкні мне вусны — рай спазнаеш,
Ключ ад раю гэтага — ты сам.

* * *

Каціўся яблык па роснай траве...
Ты мяне любіш, а я цябе — не!
Прэч ідзі, прэч!
Адразу гара з плеч...

Кацілася торба з высокай гары,
А у той торбе што хочаш — бяры.
Хлеб, соль, пшаніца...
Ты не хочаш на мне ажаніцца?

Каціўся яблык ружовага колеру...
Ты мяне любіш,
А я цябе болей...



* * *

Ляснуў гром так, што зморана
Хвалі упалі наўколенцы.
Падняўшы сукенку да сораму,
З вятрыскам пачалі барацца!

Гуляючы, лівень бяззубы
Прайшоўся, у нос шапялявячы,
Сушыцца вясёлку над дубам
Пакінуў чамусьці знанычы...

А ночка кагосьці там песціла.
Не ведаю, хай сабе бавіцца,
А потым прасцінку развесіла —
Расчырванелася раніца...

## Лета

Дыхнула лета на мяне
Дажджом грыбным і ветрамі.
Прайшлася з ім я павясне
Старонкай запаветнаю.

А лета хмараю плыве,
Смяецца бліскавіцаю,
Закрасавалася ў траве
Суніцай-завушніцаю.

Частуе квасам касара,
Справункі ладзіць з дзежкаю,
Пляткарыць на патэльні пра
Паляну з сыраежкамі.

Нібы цялятка мне руку
Лізнула між асокамі…
І сваё шчодрае «ку-ку!»
Рассыпала навокала…

## Люблю

Люблю я ўсмешку цёплую і вочы,
Што ў вочы мне прыветліва глядзяць.
Люблю пахучыя, як ландыш, ночы,
Што ў сне мяне удалячынь імчаць.

Люблю над рэчкай шэрыя туманы,
Аблокаў здані, што над ёй плывуць…
І нават крык з чароту нечаканы
Люблю я дзікай качкі там пачуць.

Люблю з сябрамі лазіць у каноплі
І лускаць іх, прысеўшы на мяжу.
Люблю — з наіўнай чысцінёю кроплі
Гаючага сунічнага дажджу…

❊ ❊ ❊

Абняла бяроза
Саламяны дах.
Да крамяных росаў
Ліст упаў, зачах.

Як ад рук, адбіўся
Ад радні — бяроз,
Ссох сіротка-лісцік,
У траву запоўз…



З ветрыкам падняўся,
Аж трымціць — ляціць,
А на ім казюлька,
Бы ў калысцы, спіць.

Вось ён зачапіўся
За стары пянёк,
Пад кару зашыўся
І — ныраца пад бок!

Можна на хвілінку
Адпачынак даць,
Можна нават зімку
Перазімаваць.

❊ ❊ ❊

У водах шэрай рачулкі
З імем блізкім і гулкім
Ціха палошча вецер
Лозаў чырвонае вецце.

Песні спяваюць бярозы,
Звоняць празрыстыя росы,
Скачуць пад музыку хвалі,
Пераклікаюцца далі.

Вечар паволі ракою
Плыве над маёй Церухою,
Звесіўшы ў рэчку неба,
Нібы вялізны невад…

❊ ❊ ❊

Я нарадзілася ў лесе,
Дзе пірамíды ёсць хвой.
Там са сцяжынак Палесся
Шлях пачынаецца мой.

Колькі хацеў, верас сіні
Піў з маіх сініх вачэй.
Можа, ў дрыготкай асіне
Кроў нашых продкаў цячэ?

Можа, у белай бярозы
Колер ад цела майго.
Шоўку зіхуткага косы
Ад майго роду ўсяго?

Дзе навучыліся сосны
Вопратку гэткую ткаць,
Нібы матуля на кроснах,
Ніць залатую ўплятаць?

Вось чаму ў лес я імкнуся,
Нібы ў харомы свае.
Конікі з кветак і кусцікаў
Скачуць на плечы мае.

Сцежка гасцінна у лесе
Свой разгарнула сувой.
Тут, на прасторах Палесся,
Лёс забаўляецца мной.



## Мяне чакаюць

Я засынаю...
Пяюць мне калыханку зоры...
Мяне чакаюць за небасхілам.
Конь мой — вецер.
Мой клічнік здзіваваны —
Промень сонца,
Пытальнік надакучлівы — дарога,
Рукзак, напакаваны днямі, —
Кропка.
Бяссонніцы працяжнік,
Шматкроп'е —
Вечны сон.

*З кнігі «Міг і вечнасць», 1979*

❊ ❊ ❊

А нядаўна так шумела
Юнае маё жыццё!
Паглядала я нясмела:
— А дзе ж мудрасць?
Каб знаццё!

Я і сёння углядацца
Прадаўжаю ў вір гадоў.
Нібы сон, прайшло юнацтва,
Ды няма ўсё мудрых слоў.

І аднойчы мне здалося,
Што шапнулі кроны дрэў:
— Быць наіўнаю не бойся,
Горай тым, хто стаў мудрэй.

Вось рабінай пераспелай
Зацяжарыла жыццё,
Покуль я вакол глядзела,
Як наіўнае дзіцё.

Яскай шчасце праляцела,
Дагарае мой касцёр.
А я верыць не хацела:
— Дзе ж наіўнасць?
Каб знаццё!



## Галінка алешыны

Мне б галінку алешыны
З нашай арэхавай Воленкі,
З лесу, дзе ягады першыя
Ела з цёткаю Вольгаю.

Дома пастаўлю галінку я
Ў шклянку з вадою крынічнаю.
Птушкі у хаце заціңькаюць,
Як на паляне сунічнае.

І адгукнецца мне спадчынай
Голькі зялёнае лісцейка.
Вочы успомняцца матчыны
І басаногае жыццейка.

❊ ❊ ❊

Я вечнасці вялікай — толькі міг,
Які сваё нясе у свет упарта:
Сваю любоў, нянавісць,
Зрок і слых,
Сваё жыццё —
Пакуль яго я варта...

## Тралейбусы

Мне падабаюцца тралейбусы.
Яны так важна праплываюць,
А ў вокнах людзі, быццам рэбусы.
Які мудрэц іх разгадае?

Як нетутэйшыя алені,
Узняўшы рогі к правадам,
Плывуць тралейбусныя цені
Насустрач дням і вечарам.

І калі толькі для каханых
Цвітуць цюльпаны-ліхтары,
Вязе па вуліцах заспаных
Тралейбус водбліскі зары.

І затрымаецца ад ходу,
І насмяшыць яго той гром,
Што конь узняў сваёй падводай,
Дзе цыганок нібыта гном.

❊ ❊ ❊

На старэнькім,
як сама,
пяньку
Села бабка,
Жоўтую руку
Затрымаўшы,
Нібы ліст сухі,
На сваім гарбаценькім кійку.

А зязюля ўсё крычыць:
«Ку-ку!» —
За лістом зялёным у цяньку,
Нібы кажа бабцы:
«Будзеш жыць».
А ў яе сляза з вачэй бяжыць...



## Сустрэча

Лёгкі вецер над Круглай плошчай
Носіць музыкі лёгкі пошчак.
Ці ж не гэты вось самы вецер
Дома вербаў калыша вецце?

Там мяне ля крывой канавы
Зачакаўся шчанюк рухавы.
Ваўкі бацьку яго разарвалі
Каля хаты маёй цёткі Галі.

Сучка Найда, ягоная мама,
Выла доўга жалобна начамі.
Аблізала сыночка аднойчы
І сышла — шукаць логава воўчае...

— Добры вечар, аднавясковец!
Я цябе разумею без слова.
Ты якія прынёс навіны?
— Клічуць маці з сястрычкай:
«Ніна!»

Ціха шэпчацца з ветрам ліст...
Мне дадому хочацца, Мінск!

## З чым параўнаць?

Хіба ж параўнаеш
Нават з сонцам маці?
Калі сонца — цёпла,
А ёсць маці — добра.

Хіба ж параўнаеш
Нават з песняй маці?

Бо песня — любімая,
А маці — радзімая.

Можна параўнаць
Дзень вясенні з маці.
Вясне рада птушка,
Матулі — дачушка.

## Ранак

Які музычны ты сёння, ранак!
Запелі птушкі яшчэ зарана.
Які руплівы ты сёння, ранак!
Араты выйшаў на новы ганак...
Які прыгожы ты сёння, ранак!
Дзяўчына з гнуткім, як хваля, станам
Са студні воблакі ўверх падымае,
З вядра ў вядзерца пералівае...

Глядзіць хлапчына зачаравана:
— Якая дзеўчына,
якая панна!
Вядзерца поўнае панёс да хаты
Сваёй спадарыні
Спадар араты,
А ўслед за імі — матыль стракаты.

## У лесе

— Ніна, — крычаць сяброўкі.
— Ніна, — гукае рэха.
— Ніна, — шыпшыннік колкі
Кліча мяне са смехам.



— Ніна, — гучыць за горкай.
Коціцца рэха гулкае,
Скача, нібы вавёрка,
Музыку дзяцел выстуквае.

Сонца смяецца зверху,
Лісцейка зелена ззяе.
Лес на руках, як рэха,
Лёгка мяне люляе...

Некага там у нябёсах
Гэта ўсё так забаўляе,
Што ён расчулена слёзы
Над азярынай губляе...

* * *

Запытаў мяне рамонак кволы,
Што схіліўся над пакосам голым:
Ты па што прыйшла ці па каго?
Адказала я, што па яго.

Паглядзеў дакорліва на вёску,
А затым на скошаную слёзку
І махнуў нявесела пялёсткам:
— Не да таго!

Мне насустрач хвалі як пакосы —
Ці то рэчкі Церухі,
Ці лёсу?

На сцярню ступлю нагою босай
І — бягом!..

* * *

Над ракою ціша.
І вясло
З нерухомай лодкі павісае.
Месяц, як гусінае крыло,
Схаладзела пабялеў над гаем.

За мастом
з падводаю каня
Падганяе час — няўмольны робат.
Чуйна спіць стамлёная зямля,
Помнячы і ў сне свой клопат.

Сніцца ёй, што жыта прарасло,
Зеленеюць шчодра ў лузе травы…
Змрок гусцее, нізка над сялом
Сцелецца туман вільготны млява…

Быццам не гарэла тут сяло
І ніколі не было аблавы!

## Ля Вечнага агню

Зараслі ля Вечнага агню
Зямля — кветкамі,
Камень — імёнамі.

Прывяду сюды дачку сваю,
Што ў мяне і ў жыццейка ўлюбёная.
Хай паслухае журбу агню
І пагладзіць літары далоняю.

## Добра, калі…

Зноў дажджынкі, быццам кулі,
Сыплюцца пад ногі.
Эх, вы гулі мае, гулі!
Я прамокла трохі.

Мой прыпынак, і аўтобус
Новенькі як быццам.
За акном ліхтар як глобус…
(Зямля — ратаўніца.)

Барабаніць дождж у вокны,
Паляцелі пырскі.
Мокнуць вербы,
Воін мокне
Там, пры абеліску…

Эх, вы гулі мае, гулі!
Вось і мост праз Сож.
Добра ўсё ж,
Што там не кулі
Сыплюцца, а дождж….

* * *

Чаму ў сэрцы туга
Тугая — не парваць?
Аброць гадоў тузай
Праз час, нібы праз гаць.

Но! На сівым кані —
На расцяробы зноў.
Табе раскажуць пні,
Па колькі ім гадоў.

Ды хутка не гані
І лёс не абганяй.
Глядзі, вунь карані
Гадуюць новы гай.

На ліст — дарогі лёсу
Ляглі, як на далонь...
З лістоты гэтай восень
Распаліць свой агонь.

* * *

Ты мяне, калі ласка, пусці,
Ты не кліч мяне болей, дарога.
Справа нават не ў кволай касці,
У мяне яшчэ дужыя ногі.

Тут сваё я гняздзечка звіла,
Берагу і пільную ад гора.
Ты ж аднойчы сюды прывяла
І даверыла мне гэты горад.

І таму я прашу, адпусці
І не кліч мяне болей, дарога.
Бачыш, вучыцца донька хадзіць
Першы раз ад акна да парога.

## Шчасце

Калі пакрыўдзяць словам,
зганьбяць плёткай,
Бягу паслухаць, як дачка смяецца.
І боль знікае нечакана лёгка
Ад шчасця, а яно дачкой завецца.



Калі над светам цень вайны шалее,
Дачушку прыгарну сваю да сэрца.
Трывога ўзнікае і мацнее,
Бо шчасце — мімалётнае, як вецер...

Калі яна глядзіць вачамі сінімі
І рада гэтак усяму на свеце,
То мне здаецца, што і зло загіне
Ад шчасця,
а яно завецца — дзеці.

* * *

Так цвілі мае паляны
Пралескамі першымі!
Сярод кветак тых духмяных
Я была — найлепшаю.

І цяпер цвітуць паляны
Краскамі найлепшымі.
Сярод кветак тых духмяных
Мая донька — першая!

* * *

На палях тваіх — лёну нябёсы,
Царства бульбы і свята хлеба.
Беларусь мая срэбнаросная!
Бохан сонца ў далонях герба!
Адчуваю сябе ручаінкай
Тваёй чыстай крынічнай вады.
На будоўлях тваіх — цаглінкай,
Дрэўкам сцяга твайго — заўжды!

❊ ❊ ❊

Колькі ў маім Гомелі рабін!
Тэлевышка арабінайззяе.
Нават лёс у нас цяпер адзін
З горадам, як у рабіны з гаем.

Шчасце ў мяне з горадам адно,
Вуліцы, і кветкі, і фантаны...
Кожным ранкам горад у акно
Прывітальна мне ківае кранам.

Цягнікоў вандроўных перастук
Заманіць удаль мяне ці зможа?
Арабінай я сама расту
У зялёным горадзе на Сожы.

❊ ❊ ❊

Дрэмлюць мае летуценні
І ў ясны дзень, і ўначы...
Грымнуў бы гром вясенні,
Рэхам патрос далячынь!

Каб мара мая і натхненне
Маланкай жахалі ўгары,
Каб зноўку мае летуценні
Успыхвалі на зары.

І птушка глядзіць на неба,
Калі п'е ваду з каўша.
Мне вецер і неба трэба,
Каб зноў заспявала душа...



## *Сон*

Галава цяжкая стала,
Вейкі цяжка узнімаць.
Замаўкае ўсё памалу
Ды кладзецца ціха спаць.

Думкі — карагод дзявочы —
Паляцелі пад адхон.
І цалуе вусны, вочы
Малады, салодкі сон...

❊ ❊ ❊

І цяжка мне, і летуценна,
І светла на маёй зямлі.
Асветлен лес, хоць і заценен —
Карой адсвечваюць камлі.

Плывуць насустрач мне аблокі,
Бягуць насустрач мне вякі.
А я да вас, мае вытокі,
А я да вёскі — напраcткі.

Вось тут бярэ мой век пачатак,
Тут родны сад, тут родны дом...
А што мой выбера нашчадак
І дзе саўе сваё гняздо?

* * *

Прарастаю праз слёзы
Думкамі, вершамі,
Прарастаю ў нябёсы
Мараю першаю.
Хоць не лепшай, не вартай,
Хоць не так, як хацела,
Прарастаю упарта,
Ды шкада, што нясмела.
Так упартасць сагне,
Так цябе перайначыць,
Што у ёй днём з агнём
Ты сябе не убачыш.
І пакуль дабярэшся
Да светлага раю,
Столькі гора спазнаеш,
Што і думаць не раю.
Ды як парасткі тыя,
Што шумяць сёння садам,
Набіраем мы сілы
Цераз боль, цераз радасць.

## *Сум*

Сум душы маёй,
Ты чаго крычыш?
Дай душы спакой,
Падары мне ціш.

Сум душы маёй,
Ты чаго маўчыш?
Страшна мне адной,
Мяне душыць ціш.



...Рэха захлынецца
Гэтай цішынёй,
Вечнасць адгукнецца
Крыжам і труной.

* * *

Не прыйшоў — і не трэба.
Восень лісце губляе.
Як цыганка
У плацці квяцістым,
Гуляе.

Я руку працягну ёй —
Няхай адгадае,
Дзе вясна мая сонечная
Прападае.

— Там, дзе бавіцца бусел
З расінкамі ў горле,
Вясна зачапілася
За пругкае голле.

Пералжыць яшчэ трэба
Зіму не адну,
Каб буслы па-над грэбляй
Згубілі вясну.

Калі прыйдзе ён, любы,
Тады й будзе вясна.
Праўду восень сказала,
Я ж адна ўсё, адна...

❊ ❊ ❊

Як маланка, бяроза
Мільганула галлём.
Тэлефонная проза.
Голас твой.
Першы гром...

Гром з маланкаю, мусіць,
Даўно сябрукі?
Калі б вусны да вуснаў,
А рука да рукі...

## Чакаю

Я чакаю цябе,
Чакаю той вечар,
Калі звонкае лісце
Ахіне дрэваў плечы,
Калі зноў ад пяшчоты
Тваёй, у палоне,
Будзе твар пунсавець
У гарачых далонях.
А сягоння салдат ты,
Ты далёка сягоння.
Беражы, мой каханы,
Наш хвалюючы вечар,
Беражы шолах лісцяў,
Дрэваў голыя плечы,
Зберажы мне пяшчоту
Сваіх моцных далоняў,
Зберажы свае вусны
Для мяне —
Хай палоняць.



❊ ❊ ❊

Мяне вабяць дарогі
І чароўныя ўсмешкі.
Каб яшчэ калі трохі
Паблукаці па сцежках,
Там, дзе перліны сонца
Атрасае з галінак,
Дзе свавольнікі-хлопцы
Пільнавалі дзяўчынак,
Дзе вясною чаромха
Цешыць вока красою,
Цалаваў дзе таропка
Мяне хлопец вясною.

А на вуснах салодка
Заірдзелася цнота,
А насустрач чародкай
Залатая лістота...

## Не такі, як усе

І навошта тады
Са мной побач ты сеў —
Не такі, як усе,
Не такі, як усе?

І чаму ты глядзеў,
Як падаў паліто,
На мяне, як ніхто,
На мяне, як ніхто?

І калі да мяне
Дакрануўся рукой —

Я згубіла спакой,
Я згубіла спакой.

І цяпер я хачу
Табе сніцца у сне
Не такой, як усе,
Не такой, як усе.

❊ ❊ ❊

Смяецца званочак блакітны
Не ў лузе — на белым стале.
Мне хораша, толькі нібыта
Кагосьці табе не стае.

Вось скрыпнулі дзверы сярдзіта,
І чуецца голас яе...
І як той званочак блакітны,
Успыхнулі вочы твае.

Ляжыць нерухома забыты
Званочак табой на стале...
Чаму мне так сумна,
Нібыта...
На свеце цябе не стае.

❊ ❊ ❊

Успалыхнула зарніца
На палову нябёс!
Ну чаго ж я, дурніца,
Уцякла да бяроз?

Можа, клікне з надзеяй
Голас, поўны тугі?..



Не заве, не ідзе ён,
Рупатлівец* які!

Ён — мая таямніца,
Неспакойны мой лёс.
Ну чаго ж я, дурніца,
Уцякла да бяроз?

❊ ❊ ❊

І адкуль ты ўзяўся
на маю галоўку!
Такі хлопец хітры,
такі хлопец лоўкі!

Бо калі прыходзіш
ка мне на спатканне,
Забываю нават,
дзе вечар, дзе ранне.

Вось сама бягу я
да свайго Адама,
Нават ног не чую.
Дзе ж дубец твой, мама!

Не супыніш гулі —
і не заікайся,
Бо дубец матулін
некуды схаваўся.

---

* Рупатлівец — раўнівец.

❊ ❊ ❊

Прыйдзі, прыйдзі, прыдзіра!
І зразумееш сам —
Цябе я, калі шчыра,
Нікому не аддам.

Пакінутым пакінь ты
Прыкідвацца. Вось так.
Патрэбен мне адзін ты,
Упарты халасцяк!

Ідзі, ідзі, ідзі ты!..
Калючы вось такі.
Ласкавы і сярдзіты —
Чорт ведае які!

Прыйдзі, прыйдзі, прыдзіра!
І зразумееш сам —
Цябе я, калі шчыра,
Нікому не аддам.

❊ ❊ ❊

Эх, мой хлопец,
бераг мой гарысты!
Для цябе, спакойны мой, —
я быстрая?

Думаў ты, што буду — ручаінкаю
І свяціцца кожнаю пясчынкаю?

Ну, а я ракою разлілася
Ды вакол цябе я абвілася.

І няма канца пяшчотнай хвалі!..
Мы з табою ў жыццейка на балі.



❊ ❊ ❊

Дзіўна, дзіўна!..
Я лаўлю усмешку
І твой погляд цёплы на сабе.
— Я хачу быць сёння самай лепшай! —
На маім напісана ілбе...

Я сяджу, зусім не чырванею.
Выручаюць вопыт і гады.
Толькі ўся ад погляду нямею,
А ўсе думаюць — нямееш ты.

Мой цягнік...
І круг сяброў радзее.
Пацалунак твой.
І вось тады
Я шчаслiва раптам чырванею,
А ўсе думаюць —
Шчаслівы ты.

❊ ❊ ❊

Сэрцы два чакалі, зналі — будзе.
Бліскавіцай думка:
«А што ж людзі?»

Зрэнкі расшыраў спалох трывожны,
Быццам набліжаўся час апошні.

Не маглі загладзіць гэтай думкі
Нават рукі, нават пацалункі.

Толькі час памог з ёй прымірыцца,
Толькі час...
Ды ўночы навальніца.

❊ ❊ ❊

Адчуваю кожнай клеткай шчасце
Ад таго, што ты са мною побач.
Твае вусны — то маё прысчасце,
Твае рукі — мне у шчасці помач.

У сутоках гэткае лагоды
Забываю пра надзённы клопат:
Не губляць ад шчасцейка свабоды,
Бо заўжды шчаслівы толькі робат.

❊ ❊ ❊

Баялася згубіць — згубіла,
Баялася зманіць — зманіла.
Баялася кахаць — кахаю.
Баялася спазнаць, ды знаю.

❊ ❊ ❊

У ноч я кінуся:
— Забудзь!
У ранак выбегу:
— Забудзь!
У дзень я увайду:
— Забудзь!..

Як-небудзь я забуду,
Будзь!
Ты ж паспрабуй мяне забудзь.



❊ ❊ ❊

Ноч, як хусткай, ахінула плечы...
Любы мой, як я чакаю стрэчы!
Ці не скажуць твае лодкі-вочы,
Дзе іх калыхалі хвалі ночы?
Ці не скажуць твае рукі-вёслы,
Дзе іх калыхалі хвалі лёсу?
Ці не скажуць сёння твае вусны,
Чаму мне без іх на свеце пуста?

❊ ❊ ❊

Ты патрэбен мне гэтым ранкам,
Калі вэлюм, як сон, вісіць,
Калі бавяцца промні на ганку,
Як у сажалцы карасі...
Ты патрэбен мне гэтым ранкам.

Ты патрэбен мне днём асеннім,
Калі тоне ў вачах туман,
Калі час назад не павернеш,
Калі зелень ужо спадман.
Ты патрэбен мне днём асеннім.

Ты патрэбен мне ў гэты вечар,
Калі я патрэбна табе.
Калі ўсё ж другі мае плечы
Асцярожна горне к сабе...
Ты патрэбен мне ў гэты вечар.

Ты патрэбен мне цэлую вечнасць,
Калі нават не буду твая,
Калі здасца ўсё недарэчным
І не трэба табе буду я...
Ты ж патрэбен мне будзеш вечна.
Ты патрэбен мне...

❊ ❊ ❊

Каму я гэтым шчасцем абавязана,
Мой самы, мой жаданы чалавек?
Тваім рукам, твайму пагляду яснаму,
Што сэрца асвятліў на цэлы век.

Каму я гэтым шчасцем абавязана —
Табою захлынацца, як вадой,
А потым ажываць з табою разам
І адчуваць сябе такой зямной...

Каму я гэтым шчасцем абавязана?..

❊ ❊ ❊

Зацвітаюць вечарамі
Зоры у блакіце,
Закрываюць свае вочы
Васількі у жыце.

Раніцою вянуць зоры,
Кветкі ж расцвітаюць...
Хто не знаў ніколі гора —
Радасці не знае.



І на беды, і на ўдачу
Лёс зямны багаты.
То смяюся я, то плачу:
Смех і плач — блізняты.

Ачмурэлая ад гора,
Рук не апускаю,
Бо калі завянуць зоры —
Кветкі расцвітаюць.

*З кнігі «Дзічка», 2001*

❊ ❊ ❊

Слухайце!
Яшчэ адна знаёмая
Едзе за мяжу.
А як жа я?
Ці ў радзіму гэтак улюбёная,
Ці мо да яе прыкутая?
Чым, скажыце?
Ланцугі якія
Так мяне трымаюць на зямлі,
Адкуль мову нашу
Гоняць кіем,
Дзе з душы
Апошні крыж знялі.
Дык якімі ж прывязалі
Путамі
Да забытых намі лахманоў,
У якіх туляецца нячутна
Мова між сваіх і чужакоў?

Тут гуляе рэха Хірасімы
І паціху чэзне
Добры люд...
Ён святы
Перад святымі ўсімі,
Бо жыве і памірае тут.
Мне мой край
І пеклам быў, і раем,
Ды чужы не мроіцца у сне.
Бо радзіму я
Не выбіраю,
А радзіма выбрала мяне.



❊ ❊ ❊

*Вользе Іпатавай*

Я не маўчу, мая сяброўка!
Зусім я не маўчу, калі
Праз сэрца боль крадзецца лоўка,
Нібы вужака між галін.

Я не маўчу, вяду з табою
Размову мужную сваю.
І хай увосень — не вясною,
Хай позняй птушкай, ды пяю.

І чую: мне азваўся конік
І паімкнулася рака
Наліць вады ў мае далоні...
Я ажыву. Ты пачакай.

❊ ❊ ❊

Ведаеце, сёння
Я плакала спрасоння.
Я плакала, як доня,
Калі была малой.
Ніхто не чуў, не бачыў
Маёй слязы і плачу,
Падушку не паправіў,
Не пасядзеў са мной...

І толькі ноч сляпая
На голас натыкалася
Ды па кутках хавалася
І трэсла галавой.

❊ ❊ ❊

Ой, ляцелі птушкі,
Птушкі-невялічкі.
Чаму смутку поўны
Вочы маладзічкі?

Чаму смутку поўны
Вочы маладзічкі,
Што сядзіць у садзе
Пад грушаю-дзічкай.

Пад грушаю-дзічкай,
Дзе цячэ крынічка...

Дзе цячэ крынічка,
Была ў ветра звычка,
Была ў ветра звычка
Трэсці грушу-дзічку.

Трэсці грушу-дзічку,
Як лёс маладзічкі.

## Споведзь

Мова мая! Сіраціна бязгрэшная!
Што ж ты забілася ў самы куточак?
І пазіраеш вачамі няўцешнымі,
І гаварыць са мной нават не хочаш.

Я падыду да цябе, мая родная!
Толькі перад табой — на калені.
Глянь на мяне хоць разочак лагодна,
Я ж пра цябе і ў снах летуценю.

Болей цябе не пакрыўджу ніколі
І насміхацца нікому не дам.



Доля твая — і мая гэта доля.
Я ж без цябе — сірата, сірата...

Я ж без цябе — без імя і без роду,
Без пуцявіны я без цябе.
Родная! Выйдзем хутчэй да народа,
Нашыя душы гатовы к сяўбе.

Словы твае засяваць будуць вусны.
Глянь на дарогу: «А хто ж там ідзе?»
Гэта, здаецца мне, беларусы
Хлебам і соллю страчаюць цябе.

Не ў лахманах і не з крыўдай вялікаю.
Сыты, абуты, спакой у вачах.
Сэрцам пустыя, душою бязлікія,
Ветрам развеяныя па вяках.

Будуць казаць, што гатовы памерці
Лепей ад сораму. Ды ўсё жывуць!
Гэта нячысціка родныя дзеці,
Бо за што купяць, за то й прададуць.

Носяць чужыя і цацкі і транты,
Песні чужыя сталі спяваць.
Мовы няма, і нямашака вартай
Песні народнай. А дзе ж яе ўзяць?

Злітуйся! Злітуйся, мова, над намі,
Што ж мы пасеем на роднай зямлі?
Вось, нібы куля, дагнала пытанне:
— Як жа вы мову не зберaглі?

Гінуць за мову, не сцелюцца лістам
Нашай радзімы дочкі й сыны:
Янка Купала, Жэня Янішчыц...
Спіс гэты доўгі, яны не адны.

Ёсць сярод нас спевакі і музыкі,
Ёсць песняры. Мой народ не зачах.
Сэрцы збалелыя з верай вялікай,
Што прарасце наша мова ў вяках.

❊ ❊ ❊

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

Ноч. Дарога шорхае аб днішча.
Маіх думак блытаны сувой...
Дзякуй Богу, што ты ёсць, Янішчыц,
Твае вершы і сыночак твой.

Нам з табой зямелька стрэчу
зычыць —
Упадзе з труны апошні цвік.
Мы за рукі возьмемся, Янішчыц,
І не разамкнем іх ні на міг.

А пакуль жыццё маё — іржышча.
Босая іду, як пад цягнік.
Табе добра, Жэня,
Ты — Янішчыц,
Я ж — табой забыты чарнавік.



# Прыкмета

## Тэрцыны

Ёсць у народзе даўняя прыкмета:
Буханку хлеба ціхенька кладуць,
Бы кніжачку любімага паэта.

І не дай Бог яе перавярнуць,
Нядбайна кінуць дагары!
Між намі,
Лепш гэтага не бачыць і не чуць.

Бо гэта к смерці. Вырашайце самі:
Ці верыць, ці смяяцца нада мной,
Разводзіць убакі дзвюма рукамі...

Я ж веру, бо стаяла над труной.

❊ ❊ ❊

Кірмаш. Я стаю,
І мой лёс каля ног
Сабачым віхляе хвастом.
Не дай бог,
Камусьці не глянецца...
І проста так
Яго падфутболяць,
Нібыта кругляк.
Заплача мой лёс,
Як малое шчаня,
А нехта падумае:
«Грошы звіняць»...

❊ ❊ ❊

Забілі.
Пераехалі.
Растапталі…
Кінулі душу сабакам:
— Ешце!
Не хочуць.
А толькі брэшуць,
брэшуць,
брэшуць…

❊ ❊ ❊

Як з плячэй маіх крыж мой —
Бы з гары паваліўся
Па сцяжынцы, якую
Валун пратаптаў.
Аж спалохана зоркі
Дрыжэлі увысі
І маліліся Богу
Ліўні росныя траў.

Ні бяды, ні нуды,
Аніякага ліха!
Раптам знікла усё —
Так вадзіца бяжыць
І ў зямельцы знікае…
Толькі водсветы ціха
Танцавалі ў траве,
Там, дзе крыж мой
Ляжыць.



❊ ❊ ❊

Няўжо недзе
Нехта вершы піша
І пра шчасце марыць
Ды любоў?
У прышэльцаў верыць,
Ва Ўсявышняга…
Божа мой!
Я не знаходжу слоў.
Мне ж пра гэта
Нават сны не сняцца.
Хіба што
Бяссонніца адна,
Як з малымі,
Любіць забаўляцца
З думкамі маімі
Давідна.

## Вам

Ці ж вам не сорамна, сябры,
Што, нібы яблычак пад плотам,
Мяне шпуляюць гандляры
Сваім наваксаваным ботам?

Куды ж падзець мне Божы дар,
Душы маёй скразное рэха?
Калі вы добры гаспадар,
Мяне ўпусціце, а то грэх вам.

А я усім вам расчыню
Душу сваю і сваё сэрца.

Бліжэй сядайце да агню,
Калі вам трэба адагрэцца.

Ці бачыце вы, як гарыць
Гадамі ўсыпана галінка?
Ці чуеце — мой верш звініць
У вуснах кожнае жарынкі.

❊ ❊ ❊

Вострае лязо — мая паэзія!
Босая іду па ім гарэзліва.
Хоць і ўся нацялася ад болю,
Як сляза, але усё ж ніколі
Праклінаць свайго не стану лёсу,
Як бы цяжка мне ні давялося.
Упаду расою на траву,
Васільком памкнуся ў сіняву,
За прамень схаплюся і —
Жыву!

❊ ❊ ❊

Я, нібы жабяня зледзянелае,
Ажываю істотай усёй,
Ці як дрэўца даўно абгарэлае,
Што вяртае лістоту вясной.

Мне чуваць, як карэнні пускае
У зямлю маладзенькі дубок,
Як жалейка у вуснах грае,
Як трапеча над ёй матылёк.



❊ ❊ ❊

А я веру ў дабро:
У кветку,
У сцяблінку,
У мураша.
Веру ў цуд я, хаця і зрэдку,
Хоць зняверылася спярша.

Я, зняверaная, веру.
Веру ў хлеб
У надзённы свой,
Веру мужна
У ліст паперы,
Не кранугы яшчэ
Рукой.

## *Мой верш*

### *Рандо*

Мой верш — мелодыя найперш...
Яна, як першае каханне,
Прыйшла, не ведаючы меж,
Знайшла ў душы адлюстраванне.

Аж сэрцайка зайшлося! Лепш
Не знаць такога знітавання...
На волю вырваўся, але ж,
Як і каханага дыханне —
Мой верш.

І зноў душа як птушка каня,
Што вечна просіць «піць». І дзе ж
Той дзіўнай музыкі гучанне?

…Як добра, што не забярэш
Яго з сабой, як і прызнанне, —
Мой верш.

## Трыялет

Як дзьмухаўцы цвілі гады…
І дзе ж цяпер дзянёчкі тыя?
Былі пялёсткі залатыя,
Як дзьмухаўцы цвілі гады.

А скроні свецяцца сівыя.
Вачам сваім не вершы ты:
Як дзьмухаўцы цвілі гады,
І дзе ж цяпер дзянёчкі тыя?

❊ ❊ ❊

Некалі царква стаяла тут…
Можа, мне таму
Так добра спіцца,
Што калісьці асвяціў мой кут
Абразок стары, як таямніца.

Хто маліўся часам на яго
І прасіў чаго такога ў Бога?
Паўз яго гады, вякі — бягом!
Толькі не старэе лік святога.

Толькі не старэе родны кут,
Хай другія назвы і будынкі…
Пазнаю усё ж свой родны люд,
Той жа колер скуры і радзімкі.



## Даволі плакаць

Даволі ўжо плакаць
Над лёсам народа!
Даў бог нездарма яму
Гэтулькі сіл.
Яго не стаптаць,
Як мурог каля плота,
Як сцежку, вядзе што
Да нашых магіл.
Я стану на могілках
І азірнуся:
Бацькі мае,
Сёстры ляжаць і браты…
За іх у царкве
Я з людзьмі памалюся
І не збягу
Ад людзей нікуды.
Свянцонай вадзіцы
З суседкай нап'юся
І крыж пацалую.
Падстаўлю руку
Бабулі,
Што, нібы агарак, у скрусе
Сагнулася
На сукаватым кійку.
Прабач мяне, Божа,
Я не памылюся,
Калі паспрабую сказаць,
Што самы святы —
Народ Беларусі,
І самы цярплівы, відаць…
І мова ягоная
Свечкаю мусіць
Гарэць у душы — не згасаць.

❊ ❊ ❊

Мамачка! З якім давер’ем
Дома падрастала,
Птушанятачкам без пер’яў
Горачка не знала.

Ззяла кожнаю пушынкай,
Ціўкала шчасліва.
Жук пузаты і травінка
Цешылі, як дзіва.

Ажно покуль не пазвала
За сабою рэчка.
Узляцець паспрабавала —
Выпала з гняздзечка.

Вось тады я і спазнала,
Што такое гора,
Калі вольнай птушкай стала,
Пабыла за морам.

Захацелася дадому,
Назад павяртаці,
Хоць даўно няма, вядома,
Таго птушаняці.

Там, дзе ягады збірала,
Крапіва — на дзіва!
Я ўсё роўна шчабятала,
Як тады — шчаслівa!



❊ ❊ ❊

Церуху парэзалі канавай,
А было ў рацэ так лёгка плаваць!
Тут калісьці балаболкі-хвалі
Мае думкі ўслых перабіралі.

Церуху парэзалі канавай!
А яна ж паіла долы, травы.
І пілі з яе далоняў коні…
І на конях
дзён тых не дагоніш!

❊ ❊ ❊

Еду да роднай цёткі,
Дарогай еду той самай,
Якою хадзілі продкі,
Ездзілі коні і сані.

А я да свайго дзіцёнка
Еду пад мірным небам,
Якое ні я, ні Алёнка,
На шчасце,
іншым не ведаем.

Алёнка мая у цёткі
Тыдзень ужо як госціць.
Аўтобус такі дрыготкі,
Нібыта баіцца чагосьці.

❊ ❊ ❊

*Епіскапу гомельскаму Ціхану, рэпрэсаванаму*
*ў 1920-я гады*

Як толькі цётка псалмы распявала,
Малітва Ваша нада мной лунала.
І я лунала з ёю між аблокаў,
І быў мой сон і чысты, і глыбокі.

Так спіць пад купалам нябёс анёл,
Узгадаваны Божаю малітвай,
І на вяршыні горнае арол,
Што ім аблюбавана і абжыта.

❊ ❊ ❊

Ліхтар адзіны на знямелай вуліцы
Хістаецца, як п'яны інвалід,
Падслепаватым вокам сваім жмурыцца,
Глытае снег, як белы стрэптацыд.

У небе воблакі, як вобла. Клочча
Збірае месяц, згорблены жабрак.
Дубок кідае міласціну ночы:
Апошні ліст сухі — стары мядзяк.

Звіняць пад ветрам зорак ледзяшы,
Прывід Хатыні шастае паблізу…
Ажно усё застыла у душы,
Як на марозе мокрая бялізна.

А пад страхою скачуць капяжы,
Нібы язычнікі спраўляюць трызну.



## Хатынь

Хатынь, Хатынь!
Гудзе набатам сэрца.
Я пабыла ў Хатыні,
І здаецца,
На свеце не жыла.
Не бачыла
Ні матыля, ні краскі.
Не чула мовы матчынай
І казкі…
А чую толькі,
Як завуць званы
Мяне — з агню,
Мяне — з вайны.

❊ ❊ ❊

Выйдзі, бацька, на балкон,
Пабач…
Божа мой, які дзівосны свет!
Дык забудзься пра вайну, не плач.
Тэлевізар выключы, сусед.

Спеў птушыны, смех дзіцяці звонкі —
Вось ад шчасця нашага ключы.
Выключ радыё, мая Алёнка,
Хай трывога ў сэрцы памаўчыць.

Спеюць дні
І адыходзяць гронкамі,
Нібы у капейку, ў белы свет.
Крыж над бацькам.
Бусел над Алёнкаю…
На радзіны загляні, сусед.

❊ ❊ ❊

Пакуль Чарнобыль
У душу глядзіць,
Пакуль з яго калодзежаў
Не піць,
Пакуль яго сыноў
Не ажывіць —
Баліць!
Пакуль прамень
Над хваляю дрыжыць,
Пакуль буслам
Над гнёздамі кружыць,
Пакуль у Прыпяці
Нябёсам стыць —
Баліць.
Пакуль у небе ясным
Сонцу быць,
Над абеліскам зорка
Зіхаціць…
Пакуль на гэтым свеце
Мне баліць —
Жыць!
Жыць…
Жыць.

❊ ❊ ❊

Усюды квадраты. Квадратамі
І вокны, і сцены, і хаты.
Я думкі хаваю за кратамі,
На сценку палезеш хіба ты?



Баюся чамусьці чагосьці.
Сябры — вельмі рэдкія госці.
І песні яшчэ немаўлятамі
Мруць на ляту — вінавата я.

Цікую за імі няспешна,
Нібыта птушка драпежная.
Не бачу, што ў кіпцях скамечыла
Душу сваю чалавечую.

❊ ❊ ❊

Не для адводу
Ад людскіх вачэй
Я гавару вам:
Нам не чуць няможна,
Як дыхае Чарнобыль
Ля дзвярэй.

Хоць вось яно —
Зноў свята пасля стратаў!
Ці ж забароніш
Птушкам гнёзды віць?
І зноў пішчаць
У гнёздах птушаняты,
А людзям зноў у іх
Вучыцца жыць.

❊ ❊ ❊

*Валянціне Таянковай*

Твая душа неўтаймаваная —
Гняздо на вершаліне высахлай...
І для мяне заўжды жаданая,
Пакуль нас не засыпле прысак.

Калі ж з душы тваёй сарвецца
Святая песня... Я тады
Лячу ёй розум свой і сэрца
І пазбаўляюся нуды,
Калі з душы тваёй сарвецца
Святая песня...
І гады —
Як торба, сто раз цыраваная,
Ляжаць зняможана, прыціхлыя.
Са мной душа неўтаймаваная —
Гняздо на вершаліне высахлай...

Залечыць дрэва свае раны
І ўстрапянецца птушкай высака!

❊ ❊ ❊

*Сястрыцы маёй, Валянціне*

А смеху ўсё меней,
меней...
Зморшчынак болей і болей.
Радасць ці задуменнасць?
Сына матуля жэніць.
Як час плыве не паволі!
А рукі помняць малога,



І васількі — на кашулі.
Свята. Вяселле. Дарога.
Светла і думна матулі.

❊ ❊ ❊

Шчасце, калі з лістотай
Дрэва, галінка, кветкі...
Шчасце, калі не ўпотай,
Калі яму людзі — сведкі.

Хай на усмешку маланкі
Гром адзавецца лагодна.
Хай ля помніка-танка
Дзецям гуляецца згодна.

Шчасце,
Калі з лістотай
Дрэва,
галінка,
істота...

❊ ❊ ❊

Як разгарэліся ў траве
Жарынкамі суніцы!
І неба па рацэ плыве
Самотнаю грамніцай.
Сляза нячутна упадзе
На баравік з ігліцай.
Ці бліскавіца на вадзе,
Ці, можа, маладзіца?

Свой выклік кінула бядзе,
Смяецца, як дурніца…

А сэрца — бусляня ў гняздзе —
Пад рогат навальніц
Вось-вось, здаецца, упадзе
У вогнішча суніц.

## Мазыр

*Рандо*

Мазыр вільготны ад расы
Агнямі граў навідавоку,
Нібыта ночка паясы
Свае развесіла высока.
І даляталі галасы
Далёкіх цягнікоў да вокан…
Цішком пупышкі у лазы
Свавольна гладзіў ля асокі
            Мазыр.

Лянiва месяц у аблоках
Катаўся, як у масле сыр,
Але ж угледзеў адным вокам,
Як акунуўся ў валасы
Лазы, ажно гарэлі шчокі —
            Мазыр.



❊ ❊ ❊

Мы ісціну адшукваем упарта
У сутнасці няроўнага жыцця.
Ды перад намі контурнаю картай
Яна раптоўна выплыве з быцця.

Праб'е наш час…
І мы ўжо маем ісціну:
Аголеную — немаўля,
Абноўленую — веснавое лісце,
Акрэсленую ісціну —
Зямля.

❊ ❊ ❊

Ветразь скача, нібы лось,
Хвалі — у пагоню!
Акунуся ў маладосць,
Як у рэчку коні.

Супынюся на скаку,
Што рабіць цяпер-тка?
Углядаюся ў раку,
Нібы у люстэрка.

Ды цячэнне пакрысе
Ветразь мой агорае,
Нас абодвух панясе,
Нібы рэчку ў мора.

Ветразь на вадзе як лось,
Хвалі — у пагоню!
Не дагоніш маладосць,
Шпарка скачуць коні.

❊ ❊ ❊

*Памяці Міхася Стральцова*

Зіма была
Стараннай гаспадыняй,
Былінкі пабяліла,
А твой смех
Іскрыўся снежна...
І кружыў няспынна
Над намі, як анёл,
Бялюткі снег...

З-пад снегу,
Помніш,
Выглядалі шышкі.
І рэха ў гай
Лілося цераз край...

...Міхась, прызнайся,
Ты стаміўся крышку?
Прылёг,
Як снег той?
Хопіць, уставай!
Давай руку,
Глядзі — вавёрчын след!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А рэха галасіла
На ўвесь свет...



❊ ❊ ❊

Вершы мае,
Мае летуценні!
Калі нада мною
Збягаюцца цені,
Калі дых займае
Ад рознае дрэні,
Калі ад бяды
Не ўратуюць і сцены,
Я вамі жыву,
Я вамі жыву!

Сябры мае шчырыя —
Валі і Жэні,
Калі роднай глебы
Не чуюць карэнні,
Калі зрок губляе
Лістоты адценні,
Калі не знаходжу
І ў Бога збавення...
Я вамі жыву.

Калі упаду,
На апошнім імгненні,
Асвеціць труну маю
Свечак мігценне.
Сябры мае верныя!
Да пабачэння!
Вазьміце з сабой
Маіх вершаў праменні —
І я ажыву,
І я ажыву.

❊ ❊ ❊

*Галіне Каржанеўскай*

Губляе бэз беспerапынна
Пялёсткі белыя ў траву...
Напамінае ён жанчынам:
На свеце толькі раз жывуць.
О мая мілая сяброўка!
Галінка бэзу ты. Хаця
Было і соладка, і горка,
Але было зусім няўцям,
Што ты цудоўная такая,
Да кожнай рысачкі свая.
І маім вершам не чужая,
І майму гораду радня.
Дык не сумуй.
Глядзі, вунь птушка
Расы нап'ецца і пяе.
Галінка бэзу птушку гушкае,
Пялёсткі свецяцца ў траве.

❊ ❊ ❊

Усю ноч ішоў дождж.
Усю ноч. А чаго ж?

А таго, што ўжо восень
Затуманіла просінь.

І карову ўжо нашу
Не пагналі на пашу.

І напэўна, таксама,
Што сястра выйшла замуж.



І зарэзалі гуску
Гасцям на закуску.

## Ластаўка

### Трыпціх

1

Ластаўка!..
І ён не зводзіў воч,
І гняздо, здавалася, як песня,
Слоў з якой не выкінеш,
А ноч —
Самаю шчасліваю і весняй.
«Ластаўка»...
Віно і смех, апроч
Неба. І ў душы маёй глыбока,
Нібы у пустым метро,
Штоноч —
Холадна, бязлюдна, адзінока.
Музыка...
За ёй у белы свет
Адлятае ластаўкаю песня.
Хочаш невялікі мой сакрэт?
Заспявай яшчэ раз пра Алесю.
У кахання многа ёсць прыкмет.
Я не супраць, не, любові грэшнай,
Толькі...
Я хачу любіць як след,
Не часова каб і не паспешна.
Помніцца яшчэ мне, як цвітуць
І сады, і кветкі, і нявеста...

Глянь,
А мне шампанскае нясуць
Замест кветак.
Што ж, прывет аркестру!
П’яная не ад віна —
Ад рэшты
Успамінаў, болю... і ад песні.
Не сярдуй, мой дружа,
І за ўсмешку
Заспявай яшчэ раз пра Алесю.
Я на гэту песню памалюся,
Хоць яна мне ўжо не па плячу.
Будзь са мною, бо я так баюся,
Што у неба болей не ўзлячу.
Я лунаць любіла у аблоках...
Ды табе да гэтага ўсяго —
Ты прабач —
Напэўна, так далёка,
Што і сам не ведаеш таго.
Для цябе мой лёс
Як цёмны лес...
Ну й няхай, пабеглі у арэшнік!
Што глядзіш, нібыта уваскрэс
Толькі што —
Я не анёл, канечне...

2

Зноўку навальніца усю ноч...
Мой няспынны смутак —
Навальніца!
Смутак па табе,
Самота воч...



Можа, зараз і табе
Не спіцца?

Выбягаю ў ноч,
І дождж насустрач —
І густы, і шумны,
Нібы гай.
Вось і ты!
Упала з неба люстра!
То багі раўнуюць,
Ну й няхай!

Як маланка,
Мільганулі рукі.
Супыніўся дождж,
І гром прыціх.
Мы ў сябе ўвабралі
Ціш і гукі.
Прыпыніўся шар зямны
На міг...

Потым зноўку дождж,
Як лес вячысты,
Зашумеў,
Шаптаўся з намі ўслых...
Што глядзіш,
Нібы які нячысцік,
Думаеш, усю мяне
Спасціг?

3

Вось і дзень спякотны.
Ля ракі,
Як цялушка цельная, — званіца,
Выставіўшы ўсе свае саскі,

Разляглася тут,
На пляжы быццам…

Падхаплю даёнку, напрасткі
Пабягу даіць з суседкай Зорку.
Ля ракі паселі пастухі,
Нетаропкую вядуць гаворку.

Падаю, нап'юся сырадою,
Выгляну ў акно:
— Хто ж гэта? Ой!
Папраўляю валасы рукою,
Выбягаю — нарачоны мой!

І дарогу, быццам на клубкі,
Зноўку мы намотваем на колы.
Цягнуць невад з рэчкі рыбакі,
Далятае іхні смех вясёлы.

На балконе нашым галубы
Расшумеліся, як дзве суседкі,
Іх не слухай, ім казаць абы…
Адпачні. Пастаў сюды вось сетку.

Не стаміўся? Пойдзем, калі хош,
Па знаёмых вуліцах паходзім.
Згодзен? Дык пайшлі.
Што гэта — дождж?!
Вось і пагулялі. Смех дый годзе!

Зноўку гэты лівень, нібы лёс,
Вырас на дарозе нашай спешна.
Што глядзіш, нібыта сам Хрыстос?
Каяцца не буду, хоць і грэшна.



❊ ❊ ❊

Крочу, быццам па ільду,
Жонкаю законнаю.
Ад чужога погляду
Сэрца як шалёнае.
А назад наадварот —
Вольнай маладзіцай:
У душы маёй сумёт,
Ціха, бы ў капліцы.

❊ ❊ ❊

Аніяк не спіцца,
І дзень не відзён.
Ноч нібы званіца,
Гулкі сум як звон.
Думкі, мае думкі,
Нібыта іржа,
Сэрца маё мулкае
Рэжуць без нажа.
Я чакаю сонца —
Хай слязы расу
Высушыць.
Бясконцы
Сум, што я нясу, —
Па табе.

❊ ❊ ❊

Мне прысніўся твой ліст да мяне,
На каленях святлеў, як прамень.
Там напісана: «Мілая Ніна...»
Вось і сон я шчаслівы прысніла.
Тэлефонны званок... Голас твой
У руках, нібы птушку, трымаю.
У паветры запахла вясной,
І пралескі ў вачах расцвітаюць.

Гэта цуд!.. А ці можа — жыццё,
Мо стамлёнай душы пераліvы?
Хоць не верыцца ў шчасце маё,
Але ж верш напісаўся шчаслівы.

❊ ❊ ❊

Ты мне сніўся раней. Гадамі.
Зараслі тыя сны вятрамі.

Ледзь не знесены дах майго дома,
А табе гэта ўсё — невядома.

Ах, як дом мой гайдае вятрыска!
Нібы гэта не дом, а калыска!

І не ведаеш, што яму трэба,
Ці зямлю з-пад ног выбіць, ці неба?

Падуладна вятрам я і грому.
І маланкам —
Пляткаркам вядомым.

У паветры ўжо дух навальніцы
(Ці бяды?).
Як бы не пахіліцца!

Гора мне з гэтым ветрам,
Дый годзе,
Бо мой дом ужо ходырам ходзіць.

Ат, знясло б яго разам са мною!
Ды у доме дачка.
Бог з табою!

...Пра цябе я адсніла.

## Я не для вас...

Са сваім глупствам
Напаказ,
Са сваёй праўдай
Без прыкрас,
Са смехам
У нядобры час —
Я не для Вас,
Я не для Вас.

Са сваёй даўняю
Бядой,
Яшчэ не высахлай слязой,
З душою,
Дзе агеньчык згас,
Я не для Вас,
Я не для Вас.

І толькі
У начной журбе
Я ўся твая
І для цябе.
І гэта мой апошні сказ:
— Я не для Вас...

❊ ❊ ❊

Захацелася мне ведаць,
Як жывеш ты.
Вельмі часта гэтым летам
Снішся нешта.

Толькі лецейка
Нядоўга ў нашым краі.
Вось яшчэ адзін лісточак
Ападае…

Вось яшчэ у вырай стая
Адлятае…
Жураўліная парода ўжо
Не тая.

І сініца мне у рукі
Не далася.
Як прыйшлося гараваць —
І не пытайся.

Мы ж сустрэліся з табою
Нечакана.
Ты стаяў, журбою нейкай
Апантаны,

Як па восені забыты
Баравік…
Калі так, то я —
Шчаслівейшы грыбнік!

Падхаплю рупліва свой
Баравічок,
Асцярожненька вазьму
У кулачок.



Суцяшаць грыбніцу прыйдзецца
Вужу.
Я ж нікому баравік
Не пакажу.

❊ ❊ ❊

Вуснамі лаўлю тваё дыханне
І нагбом яго бясконца п’ю…
І нястрымнае расце жаданне
Выдыхнуць дрыготкае «люблю».

Як трава вясной, тваё дыханне
Прарастае у маіх грудзях…
Абдымаю увесь свет рукамі
І лячу, нібыта ў небе птах.

Ты і я, і белы свет… Над намі
Нашае каханне, нібы сцяг.

❊ ❊ ❊

Разлагодзішся,
Разлагодзішся
У абдымках маіх,
Мой харошы!
Нібы ягады на прыродзе,
Сабяру сваю ласку
У кошык.
Да краёчкаў яго напоўню,
Асцярожненька паднясу,
Будзе доўга дзівіцца поўня
На тваю і маю красу.
Ахіну цябе, любы, каханнем,

Як святы абразок — ручніком.
І, спавіты маім дыханнем,
Ты заснеш,
Як дзіця над саском.

❊ ❊ ❊

Ну што ты кажаш?
Небыліца!
Не сніцца нават і у сне,
Як адбівалася, дурніца,
Ад тых, хто так любіў мяне.

І не лаві паветра ротам.
Глядзі, якую прыгажосць
Хавала ад людзей і плётак,
А пахавала — маладосць.

Ты ж не баішся нават кулі,
Такі дубочак малады.
Не закахайся у зязюлю —
Яна ўкрадзе твае гады.

Кахай мяне,
Пакуль, бы ў хвоі,
Тырчаць і колюцца саскі.
Мы так нацешымся з табою,
Падмяўшы ў жыце каласкі,

Што не заўважым, як анёлы
Нам зробяць з воблакаў шацёр
І што нячысцік сярод голых
Русалак... ледзьве не памёр.



## *Эратычны нацюрморт*

*Міхасю Башлакову*

Ну што, браток,
Сустрэнемся пад дубам?..
Ці лепш —
Давай залезем у дупло!
І можа, нас,
Няшчасных і нялюбых,
Сагрэе старажытнае цяпло.

І я цябе,
Мой саламяны хлопец,
Так прыгалублю
Перавяслам рук,
Што ты забудзеш
Пра свае хваробы
І прарасцеш,
Як парастак праз брук.

І зноў зазелянееш!
Ціхім раннем
Прачнёмся мы,
Шчаслівыя ўдваіх.
І будзе дуб ад нашага дыхання
Гайдацца,
Нібы лодка, нейкі міг.

Затым замрэ.
І па яго маршчынах
Цурком сцячэ лясная цішыня...
Мужчынаю
Прапахне ўся лагчына,
І ўся Айчына,
І уся радня.

# Пра любоў

Напоены настоем траў
Плыў вечар у сады.
Чмель, стомлены ад тлумных спраў,
Прысеў абы куды.

Старая яблыня лісток,
Нібы далонь, хутчэй
Падставіла чмялю пад бок,
Каб спалася мякчэй.

Ён, задаволены, гудзеў
Ёй песню пра любоў.
Такі яна не чула спеў,
Мажліва, сто гадоў.

Уночы іх падслухаў гром
І моцна раўнаваў.
І кветкі з яблыні даждём
Нібыта спілаваў.

І вось... І лівень перастаў,
І ў завязі сады.
Чмель заклапочаны прапаў
Няведама куды.

А па-над яблыняю плыў
Дым з коміна за бор...
То мой сусед гарбату піў,
І моцна пах чабор.



# Яблычны Спас

Яблыкі на Яблычнага Спаса
У царкву сваціць народ ідзе...
Помніш сад у квецені і нас —
Белых два пялёсткі ў цемнаце?

І было такое пачуццё,
Што ў раі знаходзімся з табой.
Ці то з кветак яблыні касцёр,
Ці сам Бог стаяў над галавой?

Ноч усю, са свечкай у руках,
Паўтараючы малітвы словы,
Церпяліва Боженька чакаў,
Каб паспелі яблыкі любові.

Яблыкаў на Яблычнага Спаса
У царкве так многа, як людзей...
Людцы добрыя мае! Для вас
Сёння яблыня мая цвіце.

*З кнігі «Аберуч», 2007*

* * *

Зашклёна рэчка тонкім лёдам.
Да берага другога ходу
Мо крокаў дзесяць... Як жа быць?
Ні перайсці, ні пераплыць!

Я б паляцела, ды не птушка.
А завіруха, як пялюшкі,
Снягі палошча над ракой,
Да неба ўжо падаць рукой.

А з берага другога песня
Гукае, нібы вырай весні,
Ды шэптам моліцца быльнёг.
Пачуў яго, напэўна, Бог...

І там, дзе лёд, — шарпак насланы,
Мяцеліцай пафарбаваны.
Іду, і радасць сэрца грэе —
Мне два крылы дала завея.

Адно — то песня мне на ўцеху,
Другое — гэтай песні рэха.
Я з гэтай песняю лунаю
То па-над пеклам, то над раем.

Царква аклікне і касцёл...
Прашу, адкрыйце, людзі, дзверы —
Я песню вам нясу аберуч,
Як свечку мне ў руках анёл.



*З кнігі «Аканіцы», 2007*

## Ля помніка А. С. Пушкіну

Я так хацела з Вамі памаўчаць,
Калі салоўка хораша спявае
І месцяць промні сонечную гаць
Праз хмары, што вісяць над родным краем.
Я так хацела з Вамі памаўчаць...

Я так хацела шэптам мовіць Вам
Сам-насам словы вечнае любові,
Як шэпча іх зялёная ліства
Без вас, даруйце, ясныя панове!
Я так хацела гэта мовіць Вам...

Я так хацела, каб пачулі Вы,
Як помніць Вас забытае Палессе,
Як тут курлычуць звонка журавы,
Як на Купалле тут спяваюць песні...
Я так хацела, каб пачулі Вы.

Я так хацела вось з чаго пачаць,
Што ёсць у нас і Колас, і Купала,
Сыс Анатоль!.. Дазвольце памаўчаць...
Я ўсё сказала.

* * *

Як жабрачка глухая,
Нібы аглашэнная,
Сцежкай роднай блукаю,
Паэтка блажэнная.

Буду каняю плакаць
Ля рэчак атручаных.
А за мной, як сабака,
Чарнобыль прыручаны.

Дымам вогнішча пахне,
Ціха тлее вуголле.
А сабака у багне
Усю ночку скуголіць.

Дрэмле поўні акраец,
Ды туман па калена,
І здаецца мне раем
Пада мною палена.

Край палескі наўкола,
Луста роднай зямліцы…
Я гатова пад кола
Любой калясніцы.

## Гомельшчына

Гомельшчына любая мая!
Вечная мая ты таямніца,
Хоць тут кожны лісцік мне радня,
Родная спрадвеку мне зямліца…
Гэтай сцежкай бегала я ў лес,
А назад — спалоханай авечкай
Неслася буслу наперарэз,
Што выгульваў жабіну за рэчкай.
З гэтаю вярбою я расла,
Зарабляла ў бацькі на арэхі.
Цэркаўка у Божы свет вяла,
За сабой гукала сваім рэхам.
І пакуль гарыць мая свяча



З матчынай малітваю і песняй,
Гомельшчына у маіх вачах,
Нібы абразочак, уваскрэсне.
І адорыць мой нялёгкі лёс
Чыстаю азёрнаю вадзіцай.
Качкамі аблюбаваны плёс
Адгукнецца галасна званніцы.
Возьме за руку мяне анёл,
Правядзе праз стронцый,
Як праз жыта.
На маёй кашулі васілёк
Свой пакіне вышыты адбітак.
А зярнят у жыце, нібы пчол!
І звініць, як вулей той, арбіта,
Па якой мяне вядзе анёл
З крыжыкам і Божаю малітвай.

* * *

*Кірылу Тураўскаму*

Месяц, нібыта манах, усю ночку
Свечкі запальваў у высях…
Перад іконай старой у куточку
Хлопчык маліўся.

Воін паранены падаў у росы,
Крык у бары заблудзіўся…
А у царкве, не хаваючы слёзы,
Хлопчык маліўся.

Хорам птушыным азваўся садочак,
Промні ў німбе зліліся.
У азарэнні святым, на куточак
Хлопчык маліўся.

Час праляцеў, нібы жораў над плёсам,
Дні, быццам конніца, — рыссю.
А у царкве на каленях узнёсла
Хлопец маліўся.

Бойкі сціхалі, збываліся мары,
Недзе хваробы звяліся.
Гэта мужчына з прасветленым тварам
Богу маліўся.

Крыжык каменны прарос у нябёсы,
Кажуць, вылечвае быццам...
Ходзяць малыя туды і дарослыя,
Каб пакланіцца.

Пад купаламі спяваюць анёлы,
Служба ў царкве, як калісьці...
Перад старою іконай натхнёна
Ты памаліся.

## Помнік Купалу

Неяк цяплей на душы нават стала:
Помнік у Гомелі нашым — Купалу!
Як медзякі, дрэўка лісце кідала,
Пэўна, на шчасцейка Янку Купалу.
Хораша песні як моладзь спявала,
Гэтак вітала Янку Купалу.

Сэрца Купалы птушкаю стала,
Птушка ў гняздзечку сваім шчыравала.
Лецейка ў вырай яе пагукала —
Рэху здалося:
— Купала! Купала!



* * *

Прамільгнуў і згас
Залаты мой час!
Здзіўлена наўкол
Мой глядзіць анёл:
Самотна маўчыць
На маім плячы.

— Божа, памажы!
Зноў я на крыжы,
Распята радком.
Словам, як цвіком,
Прыбіта душа
Моцна да крыжа.
— Дай мне сілы, Божа,
Несці крыж свой гожа.

## Будзьма

Будзем разам, творцы!
Будзем разам:
Святары, паэты, мастакі...
Творцы духа —
Гэтым усё сказана
І абвешчана на ўсе вякі.

Будзем разам,
Калі сонца свеціць,
Азарае промнямі душу.
Калі ж раптам завіхурыць вецер,
«Будзем разам!» —
Зноўку я скажу.

Хай мастак для ўсіх малюе неба,
Хай мой верш да неба даляціць...

Хай святар
Памоліцца як трэба,
Хай пачуе Бог,
Каб з намі быць.

Родныя зямляне,
Будзем разам.
Будзем разам, рэкі і лясы!
Колькі цёплых слоў
Яшчэ не сказана!
Уплятайце ў хор наш галасы.

## Сенакос

Звон камарыны на вушах
Вісіць, як ліпкая лапша.
Чародка качак ля вады
Ды чарацін пляцень густы.

Палатка. Рэчка. Бераг. Кладка.
Дзічак аблізанай аладкай
З-пад хвалі, як з-пад языка,
Віднеецца. Яго рака
Ніяк не можа праглынуць.
На дне ракі свой ракі пуць
Пракладваюць, а з-пад карча
Зноў жабяняты так крычаць,
Што ўсіх прывабілі буслоў.
Цяпер ім не знасіць галоў.

А ты чаму, шчанюк, так рад,
Ці, можа, строкату цыкад,
Ці зайцу, што сюдой прабег?
Усіх ты спудзіў, пустабрэх.
Ну што ж, пайшлі на беражку
Паспім да раніцы ў стажку.



## Вярбіна

З маленства вярбіна ля плота
Мяне атуліла пяшчотай.
Ля гэтай вярбіны матуля
Варыла вячэру нам.
                                        Куля
Сядзела з самое вайны
У дрэве, не знаўшым віны.
Ля самай вярбіны — канава
З вадою была. І плаваў
У гэтай канаве мячык
Ды жменька суседскіх качак.
І дрэва сябе істотай
Жывой адчувала.
                                        Лістота
Люляла птушыныя спевы
І марыла быць толькі дрэвам.

* * *

Матуля любая мая,
Ты пасядзі са мною трохі,
Давай табе адзену я
На ногі цёплыя панчохі.

Галоўку расчашу тваю
І запляту касу тугую,
А потым песню запяю
І разганю сваю тугу я.

Матуля мілая мая!
Я б правяла цябе дахаты,

Ды дзе твой дом, не знаю я,
А ты маўчыш, маўчыш зацята.

Баішся, што захочу я
Падацца следам за табою...
Матуля слаўная мая,
Мне гэтак хараша з табою!

Ды сцежку мне не замінай —
Чакае і мяне дачушка...
Матуля родная, бывай!
Пара і мне унукаў гушкаць.

❊ ❊ ❊

Ночы куродым. Ліхтар.
Хаты замшэлае твар.
З выбітым вокам акно,
Цемень асела на дно.

Нат азірнуцца мне жах.
З вечнасцю я на нажах.
Родных пакінула ёй,
Гоніцца памяць за мной.

Маці прыходзіць у снах,
Кросны снуе па начах.
Посцілкі тчэ, раздае...
Троіца. Пахне аер.

Бацька садзіцца за стол,
Вып'е гарэлкі грам сто.
Потым паўторыць не раз...
Цётка. Малітва. Абраз.

Рада б іх бачыць, дык не...
Раптам згадалася мне:



Неяк мой скончыцца век...
Жартачкі лёсу ці здзек?

Як я ў той свет адыду:
Кану ў агонь ці ў ваду,
Ці, як мой дзед, на вайне?
Нешта не хочацца мне.

Хай пасівела зусім,
Маю унукаў, за сім
Вельмі ахвота пажыць...
Хата ад смеху дрыжыць!

Ёй не знаёмы мой страх,
Села дзятва у кустах.
Хтосьці палез у акно,
Дом перарылі ўверх дном —
Зноўку гульня у вайну...

Толькі б не знаць ні адну.

## Ля хаты

Набіта галоўка мая нейкім тлумам...
Як раскаю возера — сэрцайка сумам
Напоўнена да берагоў, забалочана.
Ля хаты забытай стаю заклапочана.
І тоўстыя сонныя грэюцца мухі,
Ля сцен мітусяцца... Сланечнік бязвухі
Чупрынай дастаў аж да шыбіны хаты.
Нібы вашаняты ў чупрыне — зярняты.
Усё-ткі сустрэчы я з хатаю рада,
Мяне пакідалі, як гэтую хату,
А я выжывала, як гэты сланечнік,
Але ж не прапала дагэтуль, дарэчы.
Я ведаю, што ад бяды і адчаю

Мяне не ўратуе хаціна пустая.
За што ратаваць? Дзякуй, што не карае,
Што прыме ў абдымкі зямліца сырая.
Яна за хацінай ля роднага гаю
І скруху і гора мае пахавае.

## Вольніца

Вось я — вольна жанчына,
Без цябе любата.
Калі свята — кручына,
Калі мёд — гарката.

Дні падобны, як сёстры,
Як салёна сляза.
І няма каму проста
Нават слоўка сказаць.

А гады, бы кароста…
Без цябе я — дзічак.
Усе зімы і вёсны
Я прывыкла маўчаць.

Неўзабаве за мостам
Свісне хлопчыкам час.
Сядзе лёс ля пагоста,
Будзе крыкам крычаць.

❊ ❊ ❊

…І як быццам душа адляцела
Ад бяздумнага гэтага цела,
Што любові і ласкі хацела,
Што ў руках тваіх коліс трымцела,
А цяпер нібы храм апусцелы…



І таму — мне жывецца няспешна.
Дзень і ноч нібы тая яечня,
Пераблытаны колеры, смакі,
Кожны год аднальковы. Ніякі.

## Залатое вяселле

Адцвілі дзьмухаўцы залатыя.
За святочным сталом,
Як святыя,
Ціхай радасцю свецяцца двое,
Бо вяселле у іх —
Залатое!

Набягае на сэрца слязінка,
У руцэ камячу я
Хусцінку.
Разбаўляю журботу вадою,
А вяселлейка ў іх
Залатое.

А дзянёчкі ляцяць, як лісточкі.
Чаго толькі не бачылі вочкі!
Ды не будзем сягоння
Пра тое,
Бо вяселлейка ў іх
Залатое.

А гадкі у радкі на пянёчках.
Уцалелі ўсяго два грыбочкі,
Ды цяперака разам
Затое,
І вяселлейка ў іх —
Залатое

Вочы свецяцца, як у дзяўчынкі,
Побач ён —
Усё той жа хлапчынка.
Засталося нязменным святое,
Бо каханне у іх —
Залатое!

❊ ❊ ❊

*В. Таянковай*

Песні сяброўкі, як тыя зёлкі,
Сэрца маё адагрэюць.
Зазіхацяць у нябёсах вясёлкі,
Свет навакол падабрэе.

Песні сяброўкі, як тыя зоркі,
Ночкай у снах карагодзяць...
Ці то жар-птушка паскідвала пёркі,
Ці гэта сонейка ўсходзіць?!

Песні сяброўкі, як тыя пчолкі,
Не пасядзяць без работы.
Нота да ноты, слоўка да слоўка —
Музыкі поўныя соты.

❊ ❊ ❊

О, не для геніяў мае
Немудрагелістыя вершы!
Ёсць мой чытач, ён існуе,
І для мяне ён — самы лепшы.

Як хлапчанё, якое вершы
Не пераносіла й на дых...



Мой вершык вывучыла першым,
І вось цяпер яны ўдваіх.

Як на бальнічным ложку хворы,
Які на ўсё махнуў рукой...
Дык не, ён сёння у гуморы,
Чытае вершы з медсястрой.

Магчыма, нехта недзе — штосьці
Чытае, сніць і ўсё такое...
А я к паэту еду ў госці.
Ён вырас — хлапчанё былое.

❊ ❊ ❊

Што мне калісьці не далося,
Цяпер у рукі я лаўлю,
Хоць і раўняецца нулю
Мой дабрабыт. Але ж увосень
Я позняй птушкаю пяю.

Пяю, і радуюцца вочы
Жыццю,
Хай памутнеў пагляд.
Душа над сэрцайкам сакоча,
Як над яечкам птушка. Сад
Аголены, а ногі лісце
Цалуе... Што ж, у добры час!
Няма ў мяне другога выйсця,
Як песняй прывітаць Парнас.

❊ ❊ ❊

Я кнігу раскрыю,
Нібы аканіцы,
І буду няспешна
На вершы дзівіцца.
Сусвет адкрываць,
Спасцігаць таямніцы,
Ды толькі на сэрцы
Нядобра як быццам.

Нібыта зрываю бінты нечакана
З пазабываных некалі ранаў:
Крывавяць журбота,
Турбота і крыўда.
Ды клёкат буслiны
Пачуўся нібыта...

У сплецішчы промняў
Вільчак не здаецца —
Трымае буслянку.
Бусліха смяецца,
А бусел гартае
Нябёсы над хатай,
Вясёлку у дзюбе
Нясе буслянятам.

І я выбягаю імкліва на ганак,
Які расчыніў аканіцы у ранак.
Лупацяцца шыбы
На сонца над гаем,
І песня бусла
Нада мною лунае!



# Пажаданне

*Л. Раманавай*

Нібыта дрэву трапятаць
Ад зімняй сцюжы сярод поля.
Вясной — шчасліва дзень вітаць
Зялёным лісцейкам на волі.

Прыгожай кветкай аддаваць
Чмялю красу сваю і цноту
І ў сябе жыццё ўвабраць
Да самае высокай ноты.

❊ ❊ ❊

*Ціханятку*

Там, дзе да лесу туляцца
Падлескі,
Цвітуць вясною першыя
Пралескі,
У небе ўсходзяць першыя
Вясёлкі,
Пускаюць парасткі пад снегам
Зёлкі.
Душу сагрэе раптам
Кволы вершык,
Як раніцою промень
Самы першы.
Яго падхопіць жаўранак
У небе.
Прыслухайся!
Нічога больш не трэба —
Жыві, як парастак...

## Я прыйду

*Анатолю Сысу*

На кліч вятроў, на звон лістоты
Я адказала: не пайду.
Бо прырасла я ўсёй істотай
Да той зямлі,
з якой расту.

Я гарадской іду сялянкай
Па вёсцы, сэрцу не чужой.
А вёска наша партызанкай
Стаіць паміж бяроз і хвой.

А колькі тут сыноў і дочак
Цяпер паснулі і — калісь...
Я стаўлю свечку на грудочак.
Спі, Анатоль мой,
спі, наш Сыс.

Я не змагла ні рук падкласці,
Ні ў час адвесці злыбяду.
Прабач мяне, пчаліну маці,
І дачакайся, я прыйду.

І абдыму цябе, мой хлопча,
Ты будзеш вершы мне чытаць,
А я іх слухаць і да ночы
Навіны ўсе распавядаць,

Як сёння дзвюм тваім сястрыцам...
Мне ж застаецца памаліцца
За нас, і праўдачка твая:
Вяртаецца ўсё на кругі свая.

# Паломніца вечнасці



# Пялёсткі

## Паэма

*Жанчынам-партызанкам з атрада Надзеі Дзенісовіч,*
*што дзейнічаў на Гомельшчыне**

### Дзенісовічы**

Дзе ты, дзе ты, мая вёска!
На зямным вялізным шары
Сярод квецені пялёсткаў
Загубілася ў абшары.

Але я знайду заўсёды
Твае дываны-туманы,
Дзе гусіныя чароды,
Як на ўзоры вышываным.ё

Забягу ў алешнік ліпкі,
Афарбую рот малінай.
Маладыя ўбачу ліпкі
Ля цыганкі-арабіны.

Я й сама не супраць, можа,
Ёй руку сваю падаць.
Раптам гожа наварожа,
Як мне вёску адшукаць?

Калі зманіць — ёй у косы
Упляту рамонкі-кветкі,

* Духанін А. Партызанскі камісар Надзея // Сельская газета. — 1985. — 28 лістапада.
** Былая вёска Блудзін Калінкавіцкага раёна.



Хай яе цалуюць восы!
Я ж махну цераз палеткі.

І сваю заўважу вёску.
На зямным вялізным шары,
Яна з квецені пялёсткаў
Выплывае, нібы мара.

Паглядзець на вёску люба,
Што ні двор — то з новым зрубам,
І калгасны — з новым клубам,
Школа новая у парку,
Помнік новы — партызанкам.

Назва новая у вёскі —
Дзенісовічы. Пялёсткі
Асыпаюцца з рамонкаў,
Нібы белыя старонкі...

Запрашаю вас у вёску,
Дзе калісь жыла Хадоска.
І дзе Лексачка памерла...
Ды жыве яшчэ павер'е
Пра яе і пра Лукер'ю,
І матулю маю, Просю.

Усяго і засталося
Ад яе — пісьмо Антося,
Жменя попелу ля ганка
Ды на бацьку пахаванка.
Я — дзяўчынка-сірацінка,
І ў маіх вачах — слязінка.

### І гарэла хата…

То не вербы пад вятрыскам гнуцца,
То жанчын за косы валакуць…
— Людцы родныя! Глядзіце, людцы!
Партызан па вуліцы вядуць!

Прасачылі, значыцца… Прачулі…
Прося вунь, Матруна, дзеці побач.
І Курганская, і ты — матуля.
І бярозкай — Надзя Дзенісовіч.

— Людзі! Хто ж у хаце прыбярэ,
Плацце мне вясельнае пашые?
Лес пачуў яе і пастарэў,
Пасівелі дрэвы маладыя.

— Божа ж мой! — так галасіла Прося, —
Там малое ў хаце засталося!
Як прачнецца — будзе плакаць горка,
Не пачую плач ягоны толькі.

Толькі каты думалі іначай
(Хай іх спляжыць гэты плач дзіцячы).
Так спакойна падпалілі хату!
— Партызаны дзе?
Хутчэй прызнайся! —
Словы даляталі як праз вату… —
А не скажаш, з дзецьмі развітайся!

І гарэла хата,
Потым — вёска
Занялася вогненным пялёсткам…
Бачыў хлопчык праз агонь у хаце,
Як фашысцкі бот ударыў маці.
— Мамачка! —
адчайна звалі дзеці —



Просіны, Матруніны з бяссмерця.
Калі дзеці сталі заціхаць,
Стала з дрэў лістота ападаць…

І ўсё ж я выжыла.
Не верыцца.
А матуля — не,
Ёй не даведацца…
Быў яшчэ жывы Матрунін Ціхан.
А Матруна — не, на тое ліха.

Раскажу, што помню…
Ціха-ціха
Ноч крадзецца ў вёску,
Як ваўчыха.
Вёска затаілася, маўчыць,
Вокнамі глядзіць удалячынь.
Бачыла, як позна уначы
Наляцелі ворагі. Як дровы
Вывалаклі з хаты Дзенісовіч,
А затым — Матруну, Просю, Варку…
Пад фашысцкі выкрык:
— Партызанкі!
Дзед заплакаў наш,
Сказаў услых:
— Правакатар нехта са сваіх.
Што цікава — дзеда добра помню.
Маці — не. Хіба што голас… Тоне
У агні: «Дачушка! Донька! Доня…»

І як з Ціханам гарэла — помню.
Дзве яго сястры зайшліся ў стогне.
Ціхан да агню цягнуў далонь,
Нібы кветка гэта, не агонь.
Потым… паплыло ў вачах сутонне…
Вопратка ужо на мне дымілася,

Як сцяна раптоўна абвалілася.
Аказаўся Ціхан на свабодзе,
Ды не кінуў ён мяне, як злодзей.
Зноў да хаты вогненнай папоўз,
Бервяно падняў, там я наскрозь,
Як чаргою кулямётнай збітая,
Дымам да зямлі была прышытая.
Апрытомнела…
І бачу — коні,
Быццам бы у іхнім я палоне,
Стала неяк жудасна.
І лямант:
— Мама! Мама!
Спудзіў коней нават.

А затым…
Я вельмі добра помню —
Мучылася доўга ад бяссоння.
Я заснуць баялася у хаце,
Так баялася — прысніцца маці.
Цёткі звалі маю маму Просяй,
А яшчэ — каханкаю Антося.
«Любая! — пісаў з вайны Антось,—
Дзякую, што ты на свеце ёсць».

## *Парадзіха*

Вёска! Лёс ты мой дзявочы!
Нібы матчынай рукою,
Ахінулася з паўночы
Ціхай рэчкай — Церухою.
Ведай, я знайду заўсёды
Гэту рэчку і туманы,
Успаміны, як чароды,



Як той вырай вышываны.
І спярша, прысеўшы ціха,
Агурок падасць крамяны,
А затым пра парадзіху
Нам раскажа цётка Ганна…

— Людцы, людцы! Дзе ж Хадоска?
Як яе вы не пазвалі?
Ці ж было, каб без Хадоскі
Нараджалі ці ўміралі?
— Ну, дык дзе, дык дзе ж Хадоска?
— Вось яна — я, прывітанне!
Ох, крычыш ты так зайздросна!
Пакрычы, лягчэй мо стане.
Чалавек твой не дажджэцца…
Ну, дык будзе трохі ўвішней.
Што за дурань там смяецца?
Дайце кухталя, каб выйшаў.
— Вось ручнік,
Кладзіце з краю.
Скрознік, Варка, не забудзь!
Бач, ружовая якая,
Так і хочацца ўшчыкнуць.

Што ты, Лекса, разраўлася?
Цэла будзе ваша Прося.
Мужыка, бач, адраклася
І пазваць суседа просіць!…

Ну, здаецца, пачалося!
Адхініся, можа, Варка.
Пацярпі-тка крыху, Прося,
Раскрычалася, бы ў парку!
Вось і ўсё. Усё, жанчынка!
Чуеш, як дзіцятка плача?

— Хто, пытаешся? Дзяўчынка!
Вінаваты бусел, значыць?

Памаўчы, нарэшце, Прося!
Хай Нічыпар твой увойдзе.
Ці пазваць майго Антося?
Годзе, кажаш?
Згодна, годзе.
Болей не скажу ні слова,
Што пачула, то між намі.
Я пайшла даіць карову,
Ну, а вы тут ужо самі…

## *Хадоска*

Некалі бяздзетную Хадоску
Лаяла яе суседка, Прося:
— Не была б ты хвораю, Хадоска,
Нарадзіла б сына ад Антося.
А была б ты добрай — ажаніла,
І нявестку, як дачку, любіла…
Лёс такі Хадоску не пакінуў,
І паслаў ёй немаўлятка — сына.
Хлопца яна песціла, расціла,
Толькі не паспела, не жаніла.

Позву паштальён прынёс у хату,
І забралі сына у салдаты.
Адслужыў бы ўжо, каб не яна —
Гэтая праклятая вайна!
Зноў цяпер бяздзетная жанчына,
То крычыць, то плача з той прычыны,
Хоць ужо ніхто не папракае.
То сядзіць ля рэчкі і спявае.



## *Песня*

— Дзе загубіўся дом твой высокі,
Ты мне, сыночак мой, адкажы.
— Дом мой высокі — лес недалёкі,
Той, што шуміць ля шашы.

— Дзе ж твая маці, дзе дарагая?
Ты ж мне, саколік мой, адкажы.
— Маці мая — зямліца сырая,
Побач са мною ляжыць.

— Дзе ж твая жонка, дзе маладая?
Што ж ты не хочаш са мной гаварыць?
— Жонка мая — гэта куля ліхая,
Куля у сэрцы, ёй не баліць.

## *Ціхан*

Песню матчыну люлялі хвалі,
Потым яе сцежкцы перадалі,
Калі сцежка на дарогу выйшла,
Стала сохнуць ля дарогі вішня.

Вішню пасадзілі Ціхан з Насцяй.
Не было ніякае напасці:
Дзеці ў школу, Насця — на работу,
Ціхан з ёю працаваў з ахвотай.

Калі ж ноч звісала чорнай каскай,
Чорная, як бот фашысцкі, казка
Да яго прыходзіла у сны
Чорнай зданню чорнае вайны.

Кветкай вогненнай гарэла вёска…
Рукі маці — чорныя пялёсткі.

Сэрца, быццам міна з той вайны,
Узарвалася! І — абарвала сны.

— Ціхан!
Ціха. Цішыня наўкол...

У патолі бусел рэха будзіць...
І чуваць, як падае на дол
Сэрца, нібы яблык.
Людзі! Людзі!

То ж была вайна —
Загінуў бацька.
То ж была вайна —
Згарэла маці.
То ж была вайна —
Сіроты дзеці!
То спраўляла смерць
Свой баль на свеце.

Дык чаму ж цяпер:
— А дзе ж той бацька?
Дык чаму ж цяпер:
— Дзе ж тая матка?
Дык чаму ж цяпер —
Сіроты дзеці.
Нібы кветкі кінуты
На смецце.

## Насланнё

*Лірычны маналог*

Цяжка ўспомніць...
Думкі, як агонія.
Сэрца — у пагоню,
Боль не сціх...



Уяўляю матчыны далоні,
Што было, пакуль не знала іх?

Што было?
Было няпоўным шчасце.
І усё ж я знала — ёсць яно:
Родны кут, хаціна, цётка Насця,
Ёсць дачка — маёй любві прычасце —
І мой муж, нібы артыст кіно.

Я й сама — не грэх і пахваліцца,
Я й сама — жанчына ад і да.
І цяпер. І нават не дурніца,
Хоць і паэтэса. Ці ж не так?

Хоць і паэтэса, а быць жонкай
Я умела. Вершы, калі што,
Забывала. І аж ззяў пярсцёнкам
Муж мой за рулём свайго аўто.

Не дурніца. Быць умела жонкай.
Вершы забывала, калі што...
Называць мяне любіў дзіцёнкам,
І дурыў мяне, нібы дзіцё.

Ну, ды хопіць!
Хопіць насміхацца,
Хопіць здзеквацца з сябе самой.
Трэба (бо падумаеш мне — цаца!)
Праз сябе пераступіць парой.

Вытрымаць.
І ў гэтым шчасце,
Нібы нейкае насланнё
Перажыць, як тая цётка Насця,
Як дачка — маёй любві прычасце.
І як дом, ахоплены агнём!

Цётка Насця...
Мая цётка Насця,
Ты прабач, напомніла табе,
Як твой Ціхан паміраў у хаце.
Мой жывы.
Няхай сабе жыве.

Хай жыве,
Калі не трызніць сэрца
Па дачцэ і не баліць душа.
Хай жыве,
Калі не змог памерці
Перад тым,
Як здрадзіў нам спярша.

Хай жыве,
Калі не знае страху
За дачушкін сон, яе давер...
Што ж, няхай жыве,
Калі, як птаха,
З выраю гнёздо не пазаве.

А я веру, веру ў маладосць,
Не шукаю іншае прычыны —
Толькі тую, што на свеце ёсць
Дзве рукі надзейныя мужчыны.

## *Дзве галіны*

Я ды вы,
Выходзіць, разам — мы
Тут шукаем дзень свой
Учарашні.
Нарачоны птах мой да зімы
Адляцеў,



А ты сядзі, не кашляй.
Ціўкай ля дачкі,
Пакуль вусаты
Сыты кот,
А можа, нават леў
Вернецца з машынаю
З фасадаў...
Жарт. Не леў нат!
І не кот вусаты.
Муж — не вуж,
А над гняздом пагроза.
Неба яснае
І — гром над хатай!
І ў акне маланка, не бяроза.
І страшней за ўсё у тым малюнку
Голька бліскавіцы — тая ж думка:
То ж была вайна —
Загінуў бацька.
То ж была вайна —
Згарэла маці.
То ж была вайна —
Сіроты дзеці!
То спраўляла смерць
Свой баль на свеце.

Дык чаму ж цяпер:
— А дзе ж той бацька?
Дык чаму ж цяпер:
— Дзе ж тая матка?
То чаму ж цяпер —
Сіроты дзеці?

Ці не лепш маленькімі памерці?

Не!
Бо я цану спазнала рук,

У адчаі гэтакім спазнала!
Не ў абдымках,
Не пасля разлук,
А калі дачушку ратавала.

Вось яны, стамлёныя, ляглі,
Нібы дзве завялыя галіны.
О, як рукі тыя ажылі
Над маёй дачушкаю адзінай!
Дзве рукі хірурга... Зберaглі.
Дзве надзеі,
Дзве жыцця галіны.
Вось чаму я веру ў маладосць,
Не шукаю іншае прычыны,
Толькі тую, што на свеце ёсць —
Дзве рукі надзейныя мужчыны.

Калі ж гора зноў заслоніць пуць...
(Не ў ліхую б сказана гадзіну!)
Веру, што яны не падвядуць —
Дзве рукі звычайныя мужчыны.
І таму, калі дачка смяецца,
Мне шчаслівым гэты свет здаецца.
Гэта значыць:
Прараслі у сэрцы
Дзве рукі, як два зялёных дрэўцы.

### *Рэха*

То не дрэўцы пад вятрыскам
Гнуцца,
Як ламачча, дзетак валакуць.
То ад жаху ворагі смяюцца —
Маці самі у агонь ідуць.
Каб падкласці рукі пад дзіцяці,



Чорным вугалем на дол упасці,
Чорным дымам катам вочы засціць —
Зжыць са свету чорную праяву!

— Выдаў хто?
— Кузменка Браніслава!
Рэха брэхам залілося:
Ав-ва, ав-ва!..

Рэха, рэха!
Зблізку і здаля,
І само даецца мне ў далоні,
І чуваць, як дыхае зямля,
Рэху адазваўшыся спрасоння.
Гэта рэха даўняе вайны
У салдата сівізной на скронях.
І ніякае ні ў кім віны,
Што яго ніхто не помніць сёння.

У салдата прозвішча — Духанін.
Ён у маёй вёсцы быў паранены
І трывожныя пакінуў сны —
Здымкі даўнія былой вайны.
Гэта — Надзя,
Надзя Дзенісовіч...
Валасы шыкоўныя, а бровы
Нібы крылы ластаўкі,
Усмешка
Светлая, глядзець было усцешна.
Цешыліся каты, як хацелі,
Над душой глуміліся і целам,
Весяліліся, нібы на балі,
Каб па іх хаўтуры так спраўлялі!
Надзя, Надзя,
Мілая Надзейка...
Я цябе не помню. Неспадзеўкі

Ты чамусьці снішся мне уночы,
Як на здымку, ўсмешлівыя вочы.
На тым здымку,
Што мне даў Духанін,
Як жывая,
Аж чутно дыханне.
І было ў Духаніна заданне:
Адшукаць, знайсці для пакарання,
Вывесці на суд людскі выяву,
Здрадніцу — Кузменку Браніславу.

## *Браніслава*

Як вужака,
У дзень Перамогі
Афіцэра савецкага ногі
Абхапіла і так галасіла,
Што ў салдатаў бывалых кроў стыла.
Гаварыла:
— Саколікі мілыя!
(Каб табе мілай стала магіла!)
Камандзір, поўны праведнай сілы,
Той, што гадаў фашысцкіх давіла,
Гэту гадаўку не распазнаў,
Як сястру, як нявесту абняў...
Цяжка ўбачыць змяю паміж траў.
Каб жа знаў,
Што не Ліля яна Іванова,
А варожай задумы выснова,
І не бежанка, не паланянка,
А засланая ў лагер прыманка...
Ён з яе тую б скуру садраў.
Хоць для гадаўкі і нармалёва
Сваю скуру мяняць, як абнову.



Чырванела у вёсцы ажына
Нібы кроў, што цячэ ў нашых жылах
І выстуквае ў скронях — павінен
Адшукаць...

Так прайшла гадавіна
Перамогі вялікай. А потым
Не адзін год мінуў...
На чацвёрты —
Да сыночка паехала цётка,
Зваць Лукер'я. Былі аднагодкі
З маёй маці калісьці яны,
Да вайны.
Пападзіся, нібы на экране,
Ёй насустрач — ці фіфа, ці пані?
Спрэс пярсцёнкі,
Прыгожая тварам,
Не падобна зусім на пачвару...
Цётцы нібы падліў нехта вару!
Бо, як хваляю збітая лодка,
Загайдалася сэрца у цёткі.
Як на Броню падобная ўсё-ткі!
На такую-сякую, праклятую!
(Цётку слухаць тады было варта.)

Як ні шылася гадзіна лоўка,
То ў душы, то у сэрцы вяроўкай,
На руцэ заручальным пярсцёнкам —
Блішчаць слёзы на гэтых абноўках,
Кроў — на пальцах прыгожых і тонкіх.

Так прысуд партызанскі адбыўся,
На вачах новай вёскі...
Згадзіся,
Паднялася з руін мая вёска,
Хоць і ходзяць вайны адгалоскі.

## Адгалоскі

На памінкі вас да Лексы
Запрашаю.
Пры ўваходзе
Зноўку вам напамінаю:
Дзверы нізкія тут,
Свая быццам клін,
Можна гуз сабе набіць,
І не адзін.
І анёлаў, і святых тут,
Нібы ў раі.
Вось Хрыстос сам...
Ну а гэта — хто такая?
Вочы — быццам у суседкі, у Аксінні,
Толькі зрэнкі у суседкі нашай — сінія.
Толькі Фёдара за вусны-мёд Аксінні
На пасаг садзілі чынна і гасцінна.
Не. Аксінню не лічыў ніхто святой.
Сіратой была Аксіння, сіратой.
Нарадзіла яна Федзю трох дачок.
Трох дачок, як мяты горкае пучок.
— Дзе ж, Аксіння, усе донькі твае?
— Пахавала, мае людцы, на вайне!

...Вось з дзіцём мадонна.
Можа, Літа?
Не, канечне. Гэта Адзігітрыя.
Цётка кланялася ёй з малітвамі.
Колькі яе помню — уставала
І малітвы шэптам ёй чытала,
Потым асцярожна цалавала.
Бо яна, магчыма, і не знала,
Што цалуюць мёртвых як ікону,
А жывых, любімых, па-другому.



Вось сын Божы Аляксей...
Ей-богу!
Як дзве кроплі сходны ён з Атрохам.
Праўда, пэўна, і не сын ён Божы,
Ды з такою ж барадою гожай.
Такі велічны і мудры дзед.
Сын яго ўзначаліў гарсавет.
Расказала б многа аб Хрыстосе,
Гэта значыць — аб жывым Фядосе.
Як яго фашысты катавалі,
На крыжы яго як распіналі.
Не. Расказ мой не пад сілу мне,
Ён пад сілу хіба што вайне.
Лепш давайце мы яго мінем...
Бачу здымак цёткі на сцяне.
На тым здымку цётка у труне.

## Плач

Слёзы мае!
Выплакаў хто вас?
Шчокі сухія, і вочы, і сэрца.
З горла не выдавіць нават і слова,
Душа — сухадол, ні ракі, ні азерца.

Сэрца маё — жарынка малая,
Гэтак пячэ, што не знойдзеш і месца.
Кінь у душу, і яна запалае!
Разам з душою абвугліцца сэрца.

Чорны боль, як закляты Чарнобыль,
Займецца, нібы полымем голле.
Мае з бядою аднолькавы колер —
Чорны боль мой.

Вершы таму на белай паперы
Вугалем чорным пішу — сваім сэрцам.
Зараз, хто верыць мне і не верыць,
Мусіць чытаць іх, нікуды не дзецца.

Слёзы мае, хто вас прасіў?
З самага сэрца людзям на вочы.
Цяпер, хто хоча і хто не хоча,
Мусіць усцешыць...
Хто вас прасіў?

## Дзяды

Я заплюшчу вочы, прыгадаю...
Жменяй цётка семкі насыпае.
Хто ні прыйдзе, за рукаў хапае
І ўсё просіць: «Ну пабудзь яшчэ!»
І смяецца... А сляза — з вачэй.
Многа ў цёткі хто ў гасцях бывае:
Іван-Цяпця, Вольгачка дурная,
Нават райсабес не забывае:
Пенсію штомесяц высылае.
Толькі... Столь у цёткі прагнівае.
Ну і што з таго? Яна ж трывае,
І не бачыць Лекса, бо сляпая.
Што калгасу не да цёткі — плёткі!
Жывым думаць пра жывое ўсё-ткі.
Вось на дыскатэку — трэба сродкі!
Цётка ж хай засее свае соткі.
І каня дадуць, і возік гною,
Справа пойдзе ўжо сама сабою.
Знойдзецца і сейбіт, і араты,
Як на чарку не скупая хата.
Так вядзецца ў вёсцы, цётка знае,



Чарку днём са свечкаю шукае.
Хоць не п'е сама,
Не шкода грошай,
Калі вып'е чалавек харошы.
Хто за гэта цётку асуджае?
Яна ў вёсцы не адна такая:
Шчырая, нібыта незямная,
Па-зямному век свой дажывае.
— А Гуранчыха мне зайздросціць, дзетка, —
Цётка хваліцца, —
Гаворыць, што суседкі
Ка мне ўсё ходзяць, ходзяць
У адведкі,
А да яе — ніводная душа...
І хлебны квас мне падае з каўша.
Я п'ю нагбом і не магу напіцца,
І з цёткі не магу я надзівіцца:
Няхітрая, наіўная такая,
Нібы дзіцё малое ці святая.

Ну вось і ўсё...
Хай цётка спачывае.
І зноў у хаце цішыня такая,
Ажно чуваць, як прамяні пускае
У вокны цэзій. І крылом махае
Адважны бусел над знямелым гаем,
Над хатай цётчынай,
Над родным краем...
І ў клёкаце з журботнаю вібрацыяй
Палошчуцца дажджынкі
З радыяцыяй...

### *Замова*

У гняздзечку птушка
Шчабятала,
Багародзіцу-заступніцу
Гукала.
— Не я выклікаю,
Не я замаўляю,
А Багародзіца
Прасвятая.
Сваімі рукамі —
З роднага краю,
Сваімі вуснамі —
З беларусаў.
Сваім святым духам
З птушынага пуху,
З сястрыцы і братца —
Усю радыяцыю:
Ветравую і верхавую,
Штохвілінную і штогадзінную...
З моцных касцей,
З белага цела,
З чырвонай крыві,
Каб не балела.
Амінь.



## *А вішня ўсё ж цвіце...*

*Памяці Януша Корчака і ўсіх дзяцей,*
*якія загінулі ў час вайны*

I

Чалавек у вішні запытаў:
— Ці ж цябе я снегам не ўкрываў,
— Ці ж цябе вадой не паліваў?

Кожны год ты, вішня, расцвітала,
Ягадамі ўсіх ты частавала.
Дык чаму ж яны цяпер, на жаль,
На зямлі зялёныя ляжаць?

Адказала вішня чалавеку:
— Для чаго мяне ўкрываў ты снегам,
Паліваў вадой?..
— Каб ты расла
І не ведала ніколі зла...

— Дык навошта голле заламалі?
Заірдзецца ягадам не далі?
Не, зялёным вішням больш не спець.
Дый нашто расціць мне іх?
На смерць?

II

Цягнік ішоў...
Спявалі дзеці,
Ляцелі ў неба адгалоскі!..
Вязлі дзяцей у лагер смерці,
А дзеці думалі — у вёску.
Яны лавілі ў жмені вецер,
Услед махалі ім бярозкі...

Усё бліжэй быў лагер смерці,
А дзеці думалі, што вёска.

— Ратуйся, Корчак, кінь дзяцей, —
Яму давалі гэткі шанс...
— Не ўсе нягоднікі яшчэ! —
Адзін у доктара адказ.
І вось прыехалі, нарэшце.
Заціхлі песень адгалоскі...
Трывожна пазіраюць дзеці:
— Хіба ж такой бывае вёска?

Чаму яна нібы нямая,
І кветак тут няма чаму?
Чаму няма кароў ля гаю,
Працяжнага не чутна «му-у»?
Чаму ж тут птушкі не спяваюць,
Не чуецца дзіцячы смех?
Адны фашысты тут гуляюць,
Ды чуецца аўчарак брэх.

III

Можа, было б лепей нашым дзецям,
Каб іх не было зусім на свеце?
Можа б, шчаслівай была вішня,
Каб яна з-пад кораня не выйшла?

Калі гора засціла свет,
Страх бярэ за роднае дзіця,
Што народжана на белы свет
І яшчэ не ведае жыцця.

І усё ж я з вішняю не згодна,
Хоць і маці з ёю мы ўдваіх,
Бо жыццё даецца нам прыродай
Як на цэлы век, так і на міг.



І якраз на столькі, каб паспець
Для жыцця — а значыць, для дзяцей —
Хоць на момант перасіліць смерць.
Паглядзі! А вішня ўсё ж цвіце!

IV

Хай там расцвітаюць вішні,
Дзе ворагі некалі йшлі.
Хай дзеці ніколі лішнімі
Не будуць на гэтай зямлі!
Ідуць яны — сонца ў зрэнках.
Ва ўсім давяраюць свету.
Іх крокі такія маленькія,
А чуе уся планета.

Розныя дзеці, розныя,
З вачамі як кветкі росныя.
І ўсім патрэбна усмешка:
Кірпатым, шчарбатым, пацешным...
І дзе б яны ні раслі,
Дзеці — жаданне Зямлі.
Жаданне быць бессмяротнай,
Салюты вітаць над краем,
Калі пад сцягі народы
Дзяцей на руках узнімаюць.

І я з дачушкай задачы
Рашаю, страчаю вясну.
Але чаму стала бачыць
Так часта я сны пра вайну?
Вайны я зусім не знаю,
Дачушка мая таксама.
Малая яна пытае:
— Вайна мяне любіць, мама?

І зноў у сэрцы трывога —
Куды ж мне яе падзець!
Вайна не любіць нікога,
Хіба што адну толькі смерць.
Заходзіць і ўсходзіць сонца,
Ці ўсіх цяплом сагравае?
Дзеці — шчасце бясконцае.
Няўжо мы яго не ўтрымаем?

V

У садзе лісцё зялёнае.
Дачушка мая Алёна,
Табой не нацешацца вочы
Ні ў ясны дзень, ані ўночы.

Ты — з вечнай Хатыні дзяўчынка,
Ты — з Трэблінкі спалены хлопчык.
Ты сёння з сяброўкай Галінкай
Ява Януша Корчака.

Таму я прашу:
— Алёнка!
У дні шчаслівыя, светлыя
Пажары, магільныя ўзгоркі —
Даруй чалавецтву гэта.

Дачушка мая, Алёнка,
Як вучыць малітва і доля, —
Сваю разажмі ты жменьку
І боль адпусці на волю…

Дачушка мая Алёнка!
Галоўка мая ты светлая!
Збірай у далонькі рамонкі
І радуйся жыццейку гэтаму.



# *Лекса, або Балада пра песню*

I

Хто ведае цётку маю, з нашай вёскі,
Звычайную Лексачку, з простай прычоскай?
Закручана ў вузел каса невялічкая,
А ў шэрых вачах — смяшлівыя znічкі.

Яшчэ вочы цёткі вядомы, няйначай,
Тым, што ў іх наіўнасць дзіцячая,
Такая даверлівасць (Божа ж мой, Божа!),
Яна вось і робіць Лексу прыгожай.

Празвалі мянушкаю «Тупачка» цётку.
Бывала, яна тупацела наўпросткі
На кундалькі росныя па канюшыну,
На радасць свайму казляняці адзінаму.

Нямашака ў цёткі нікога: ні мужа,
Ні дзетак сваіх, якіх хочацца дужа,
Няма парасяці і нават каровы.
Бедная Лекса — нявеста Хрыстова.

Затое ў кутку — абразок на абразе,
(Хоць кожны пры іх мог цётку абразіць).
Напэўна, ў глухіх і святыя глухія,
Бо цётка не чуе, мае дарагія…

Яшчэ калі я не хадзіла у школу,
Расказвала цётка мне пра анёлаў.
Тады я здагадку ўзяла за выснову,
Што наша Зямля — гэта храм адмысловы.

Яна і хавае, і нараджае,
Вас, людзі вясковыя і гараджане,
Вас, сцежкі лясныя, вас, птушкі крылатыя.
Вас, песні старыя над цётчынай хатаю...

## *Песня першая**

О апетая, дзева вечная!
Дзева слаўная, найсвяцейшая,
Дапаможніца ты найлепшая!
Радасць светлая ты няўцешнаму,
Сіратліваму, беспрытульнаму,
Маці — ціхаму і бязульнаму.

Найсардэчная, наймудрэйшая!
Не адрынь мальбу маю грэшную,
Працягні руку, ратавальніца,
Заступіся ты за няўдаліцу!
Да мяне яві літасць звыклую,
Памаліся ты за абрыдлую.

Памажы ісці сцежкай цеснаю,
Звесць боль з душы, боль цялесны свой.
О апетая! Я цябе малю,
Чуеш, светлая, песню маю?

II

Не зайсці цяпер да цёткі ў хату,
Бо яна на могілках... Багата
Было ў гэтай хаце абразоў,
Што ад цётчыных зіхцелі слоў.

---

* Вольны пераклад на беларускую мову песень са сшытка цёткі Лексы. Вернікі перапісвалі іх па памяці.



Ёй іконы гэтыя — як дзеці,
А я знаю, што кажу, паверце.
Колькі яе помню — уставала
І малітву доўгую чытала.
Потым чысціла і прыбірала,
Асцярожна неяк цалавала,
Хоць тады, магчыма, і не знала,
Што цалуюць мёртвых, як ікону.
Як жывых — ёй гэта невядома.

Пражыла, як праспявала песню,
Слоў не выкінеш і не закрэсліш.
Колькі часу, як зіма, вясна —
Без абдымкаў, без любві. Адна.
Колькі шэрых дзён, нібы імжа,
Сноў халодных, як лязо нажа...

## *Песня другая*

Не спявай, салавей,
Каля келлі маёй,
І малітве ты не замінай,
Я і так шмат гадоў
Бедным жыў сіратой,
Наглытаўся я слёз
Цераз край.

Таго лёсу баюся цяпер
І — людзей,
Толькі Богу малюся:
— Не кінь у бядзе!
І нашто напяваць,
Што імкнуся забыць,
З дна душы падымаць,
Што глыбока ляжыць.

Ты ляці, салавей,
Дзе язмін забуяў.
Ты ляці, салавей,
Дзе Айчына мая.
Шчабячы ласкавей,
Як я хворай душой
Спамінаю яе
І даўлюся слязой.

Праспявай яшчэ там,
Як жыву я ў цішы
І люблю толькі храм —
Рай зямны для душы.
Прылятай, салавей,
Калі скончу я пуць,
Мяне песняй сваёй
Памянуць не забудзь.

III

Сілы прыдаваў лік Маці Божай,
Ажываў, свяціўся ён раскошай!
А на святкі, пад агні лампадкі
Абразкі дагледжаны, як градкі,
Што за хатай цёткі, на гародзе,
І пашану мелі у народзе.
Вернікі ішлі да цёткі ў хату,
Нібы у царкву калісь на свята.
Пелі псалмы і прасілі Бога,
Каб ніхто не замінаў дарогу
Верыць у Яго і ў сваё шчасце...
Помніць шчасце добра цётка Насця...
Гэта Ціхан-муж і дзве дачушкі,
Ды былі падстрэлены, як птушкі,
Іх звяла са свету ўсіх вайна,



І цяпер яна зусім адна.
Як суседкі — Вольгачка і Ніна...
Вольга страціла ў дваццатых сына.
Кажуць, утапілі ў акіяне
Сына, з бацюшкам без пакаяння.

Часцяком заходзілі пагрэцца
Старцы, сіраты — куды ім дзецца?
Цётка іх лагодна сустракала,
Стол гасцям заўсёды накрывала:
Суп з малітаўкай, пірог з капустай,
Смачна есці, хоць не вельмі густа.
Любата і мне, калі прызнацца,
У паветраных святых палацах.
І малая, хоць і без малітвы,
Кланялася той жа Адзігітрыі,
А яшчэ Прылуцкаму Дзімітрыю,
Бо яны падобныя на тых,
Хто жывым сышоў бы за святых.
«Страшны Суд» вяршыў іканастас.
Хто пра што, я ж запрашаю вас:
Загляніце лепш да цёткі ў сад.
Там на плот павіснуў вінаград,
Ёсць антонаўка, пуцімка, груша,
І язмін, і бэз, і какалуша...
Ты ж пытаешся пра Страшны Суд...
Наўрад
Ты майму адказу будзеш рад.

Каля пограба — гараж суседскі:
Трактар, плуг, тапор, каса... А сцежкі
Зараслі малціннікам у садзе.
Корпацца няма каму ні ў хаце,
Ні на вуліцы і ні ў гародзе...
Вернікі ў царкву сягоння ходзяць.

Слава Богу, вера у пашане,
А была калісь яна ў загане,
Ды знайшла вось тут сабе прытулак
І дайшла да нас душой прачулай.

## *Песня трэцяя*

Няма лепшага прывету,
Каб як след успомніць Вас...
Хай вядзе Вас Бог па свету
За спагадлівасць да нас.

І за дом, што Вы рукамі
Завяршылі ў час для нас...
Жыве памяць паміж намі,
Між людзьмі, што любяць Вас.

Будзем помніць бездакорна,
Будзем Госпада прасіць:
— Дай магчымасці штодзённа
Нам удзячна гаварыць:

Мы удзячны, Хрысце Божа,
Даў ты дом нам і спакой,
Даў нам ежу, даў нам ложак,
Блаславіў сваёй рукой.

Мы удзячны, Хрысце Божа,
Даў ты ўсё, што мог нам даць...
Дык пашлі яшчэ раскошу —
Царства Божае спазнаць.

IV

Сірацеюць дзеці — гэта страшна,
А калі бацькі — страшней няма.



Хоць і шкода дзень нам учарашні,
Ды без заўтра раніцы няма.
Людзі, агляніцеся навокал,
Дзе б вы на планеце ні жылі:
Маё вока — гэта ваша вока,
Хто сляпымі нас зрабіў, калі?
Спакваля сябе мы вынішчаем,
Цешымся пракляццямі ў журбе.
І падчас мы Бога забываем,
Бажаство гадуючы ў сабе.
Ці не хопіць адзіноту песціць
І рабіць сіротамі сябе?
Памаліцеся, як цётка Лекса,
І не заракайцеся ў бажбе.
Для Ўсявышняга усе мы — дзеці,
Пестуны ягоныя мы ўсе.
Ён дарує нам усё на свеце
І любові вучыць пакрысе.

## *Песня чацвёртая*

Любімыя дзеткі,
Мая вы лагода,
Уцеха, надзея,
Жаданы спакой...
Між вамі і мною
Лягла перашкода
Па волі Гасподняй
Прамудрай, святой.

Далёкія целам,
Ды блізкія Духам,
Бо думкай сваёю
Заўсёды я з вамі.

І чую духоўным
Абвостраным вухам,
Як часам па мне
Вы смуткуеце самі.

З малітвай стаіце
Вы прад абразамі,
Лампадка паціху
Мігоча ў куце...
Мяне ўспамінаеце
Вы са слязамі,
Я з вамі малюся
За грэшных людзей.

Калі вы пяеце
Псаломы начамі,
Ці ранкам блажэнным,
Ці святамі ўдзень,
То ведайце: духам
Я тут, паміж вамі,
Паціху іду,
Непрыкметна, як цень.

Калі надараюцца
Спрэчкі, дакоры,
Я тут, убаку
Стаю воддаль ад вас...
Разлад для мяне ваш —
Вялікае гора,
І я ў аддаленні
Смуткую якраз.

Калі вы схіляеце
Сэрца і вока
На свет, што спрадвеку
У цемры ляжыць,



Пра гэта смуткую
Я з вамі глыбока
І плачу гаротна
У вечнай цішы.

Каб толькі вы зналі,
Як дарагі мне вы!
Няможна, няможна
Вас не шкадаваць!
І сейбіт глядзіць,
Аглядае пасевы,
А тыя рунеюць,
Пачнуць красаваць.

Вы Божая ніва,
Ягоны здабытак,
Угноена потам,
Паліта слязой,
Засеяна словам святым
І адкрыта.
Для ўсіх каласуе,
Нібы аналой.

Жывіце, ідзіце
Святымі шляхамі,
Любіце адзін аднаго
І людзей.
Імкніцеся вы дасягнуць
Таго стану,
Калі пашкадуеце
Злыдня ў бядзе.

І ведайце: людзі,
Ствараючы злое,
І самі не рады,
Што дзеюць яго...

Агідна жыццё
Ім таксама такое —
Пустое, як сцёрань,
Дзе толькі асцё.

Вось так, дарагія
І любыя дзеці,
Шануйце вы Бога
І дбайце ужо,
Каб пекла пазбавіцца вам
Пасля смерці,
А я ахінаю святым вас крыжом.

V

Я люблю вас, чуеце, зямляне!
Я такая ж грэшная, як вы.
Не ўратуюць нас ні марсіяне,
Ані Атлантыды астравы.
Толькі вера, што дае надзею.
А надзея зберажэ любоў,
І тады жыццёвыя падзеі
Прывядуць нарэшце да высноў.
Да высноў, да мудрасці біблейскай:
Госця правядзі цераз парог,
Накармі, сагрэй — не будзе цесна,
Разам з ім за стол сядае Бог.

Да чаго сягоння дажыліся!
Вера ёсць, не верыцца нікому:
У забойцы дзеці падаліся,
Абарваўшы пупавіну з домам.
А Зямля ўсё круціцца, вяртае
Да вытокаў нас, да каранёў.
Дык чаму пра Страшны Суд пытаеш?
Жыць пачні, дурное хлапчанё!



Купал неба над табой у высях,
Там убачыш — можа, ўпершыню —
Лік Хрыста. Жаданне ёсць — маліся,
Калі не — паслухай цішыню.
Можа, не пачуеш ты нічога —
Завязь распукнецца спакваля,
Бо дарогі ўсе вядуць да Бога,
Толькі сцежка ў кожнага свая.
Не змаўкае ў небе хор анёлаў,
Кружыцца пад спевы іх Зямля.
Храм наш вечнасць круціць, нібы кола,
І пускае парасткі ралля.
Калі ж будзе наша песня спета?
Часу не хапае варажыць…
Мы як парасткі — радня Сусвету,
Мы — сям'я, давайце проста жыць.

### *Песня пятая*

Шчаслівы той, хто жыў у міры,
Каго свет гэты палюбіў,
Хто злому не служыў куміру,
Яму ахвяры не насіў.

Шчаслівы — хто, загнаны зверам,
Не страціў вобліку свайго,
Той, хто душой у Бога верыў
І заслужыў любоў Яго.

Шчаслівы — хто шляхом цярністым
Ішоў і моўчкі слёзы ліў,
Рахманым духам, сэрцам чыстым
Святых за грэшнікаў маліў.

# Балада пра зорку

Мудрасць свету гэтага ёсць вар'яцтва перад Богам.

*Апостал Павел*
*(1-е Пасланне да карынфян, 3, 19)*

## СССР

### 1

А ці помніш, каліна,
Пры сустрэчы з табою
Гаварыла табе я:
— Не раўняйся з ракою.
Не раўняйся з ракою,
А раўняйся са мною.
Прада мною свет белы,
Тваіх кветак бялей,
Нада мной сцяг чырвоны,
Ягад ён чырваней.

На сцягу і ў далонях
Савецкага герба —
Серп і молат пад зоркаю,
Быццам пад небам.
Адчувала сябе я
Шчаслівай, каліна,
Што і я нарадзілася
Ў гэтай краіне.



### 2

А ці помніш,
Як ты запытала: «Якая
Зямля будзе заўтра —
Такая? Другая?»
А я адказала:
— Адно толькі знаю,
Што сцяг будзе той жа
І зорка ўсё тая ж...

Я верыла ў тое,
Што праўду казала,
Ды толькі вось веры
Адной было мала.

А ці помніш,
Што сын быў у гэтай краіны,
На ўсім свеце вялікім
Такі ён адзіны
І быў варты імя,
Зваўся гучна — Народ,
Ад яго гэтаксама
Пачаўся наш род.

### 3

Нам казалі,
Што з вуснаў народа ў Крамлі
Асноўны закон
Прагучаў на Зямлі.
Я верыла шчыра
Дваццатаму веку
І што Канстытуцыя —
Гімн Чалавеку.
Я верыла шчыра:

Нясе нам свабоду,
Палям — жытні колас,
Лясам — прахалоду.
Зямлі — травы ў росах,
Траве роснай — сонца,
А сонцу — нябёсы,
Нябёсам — бясконцасць...

### *Сон*

Аднойчы, каліна,
Прысніўся мне сон,
Што неба звісае,
Нібы парасон...
Магу дакрануцца я
Нават рукой,
Ды толькі губляю
Чамусьці спакой.

Вакол цішыня,
Аніякага гуку,
Нібыта ўсё вымерла...
Раптам за лугам
Ці, можа, на поплаве
Крык раздаецца
Няведамай птушкі,
Хапае за сэрца.
І вось ёй азвалася
Птушка другая!
За ёю — наступная,
За небакраем...

Ляцелі насустрач мне
Птушкі таропка
Бялюткай на дзіва
Крылатай чародкай.



Адна да пляча
Дакранулася лёгка,
За ёй узляцела і я
Пад аблокі.
Акінула неба —
Не верылі вочы:
Насустрач мне старац
Па воблаках крочыў.
За ім, за сівою яго барадою,
Што следам вілася
Хвалістай ракою,
Дарогі цягнуліся ў неба,
Сцяжынкі,
Кружыліся зоркі,
Нібыта сняжынкі.
Спачатку падумаць хацелася:
Бог!..
Ды старац азваўся
І мне дапамог:
— Чаму пазіраеце
Толечкі ўверх?
А рэха ў адказ адгукнулася
— Вер!
— Пад ногі Сусвету,
У нетры ты глянь!..
А рэха гукае з разбегу:
— Янь, янь!..
— Там след свой яскравы
Спачатку пакінь...
Званічнае рэха званіла:
— Інь, інь!..
Нібы валадарыў тут
Зладжаны клір...
А старац сказаў,
Што завуць яго — Мір!

— Паломніца Вечнасці ты,
Як і мы...
Палонных
У небе няма і турмы.
Анёлы праводзяць
Дадому цябе,
Вяртайся раллёю
Насустрач сяўбе.

І птушкі пачуўся
Лікуючы крык!..
На міг я матулін
Убачыла лік.
Усклікнула: «Мама!..»
Нібыта клубкі,
Скаціліся з рэхам
У нетры вякі.
Прачнулася.
Слёзы цякуць па шчацэ,
Аскепак заціснуты
Рэха ў руцэ.
Сусветная ціша
Званамі наўсцяж!
І Мірскага Замку у вокнах
Міраж...

## *Міране*

1

Каліна, каліна,
Не раўняйся са мною,
Не раўняйся са мною,
А раўняйся з ракою.



Рэкі вольна плывуць
У глыбокае мора,
Беражочкі вядуць
Да высокага бора.

Рыба глыб адшукае,
Дзе чыстыя воды,
Ну а людзі — дзе лепей,
Іх кліча свабода.
Ды свабоды
Без слёзак людскіх не бывае,
Вось і мы дачакаліся гэткага раю...
Памянялі мы зорку (калісьці — адзіную),
Іншы сцяг мае Русь, Беларусь, Украіна.
Напачатку баяліся выйсці мы з хаты,
Бо вакол нас бандыты, маньякі ды каты —
Гэта рэшткі так званае нашай свабоды,
А свабода народам гандлюе заўсёды.

То пяшчотныя мы,
То шалеем да здзеку,
То святыя душой,
То душою калекі.
Як паверыць, што Бог
Быў калісь чалавекам?

І наш розум — бяда,
А не выратаванне!
Ваша іншая думка?
Дапускаю, Васпане!
Але ж вечнасці плынь
Не стрымаці нам, грэшным,
І духоўную стынь
Не сагрэць, не суцешыць.

2

Толькі з верай прыходзіць
І любоў, і надзея,
А за імі ў лагодзе
Ажываюць падзеі.
І гісторыя веку
Нібы на экране...
Можа, ў нашых пакутах —
Выратаванне?
Не багі мы,
Мы — людзі,
Гэта наша прызванне,
І такімі ўсе будзем да скону —
Міране.

Дык чаму ж мы нязгоду
І сваркі вітаем?
Мы з такое нагоды
Сябе вынішчаем.
Калі высахне рэчка —
Змялее і мора,
І не ўродзіцца грэчка
Ля Сіняга Бора.
Задыхнуцца ў балотнае багне
Вужакі,
Ажывуць на бярэсце
Старажытныя знакі.
І зямля задрыжыць
Ад літоўскай пагоні,
Пранясуцца у часе
Лёгкакрылыя коні.

Стой! Супынімся, можа,
Покуль жыта красуе,



Сіні Бор пераможна
Песняй сэрца чаруе.
Рана-раненька ўстанем —
І ў грыбы па траве!
Рэха гулка званамі
У царкву пазаве.
Мы паспеем малітву
У царкве прачытаць,
І ад сэрца да сэрца
Праложыцца гаць...
Як па шыльніку колкім,
Шляхам Млечным прайшлі
І спусцілі вясёлку
Да самай Зямлі.
...І хоць час поры года, бы кнігу, гартае,
Ты, каліна, цвіцеш, ты вясною ўсё тая ж...

3

Каліна,каліна,
Скажы мне, якая
Зямля будзе заўтра —
Такая? Другая?
Нарэшце, каліна сказала:
— Я знаю,
Што сцяг будзе той жа
І зорка над гаем...

Не буду раўняцца
Я з быстрай ракою,
Ні нават з табою,
Сяброўкай маёю.
А буду ў люстэрка
Глядзецца нябёсаў
І ягады ціха
Губляці на плёсы.

Яны прарастуць сабе
Ранняй вясною
І ўздымуць зялёны свой
Сцяг над ракою.
Над ім мілавіца
Пачне разгарацца
І неба з зямлёю
Як след мілавацца...

Я знаю: каліна
Мне праўду сказала,
Заранка абедзвюх нас
Расцалавала.

4

Беларусь, мая Зорка,
Мілавіца мая!
Мне з табою і горка,
І салодка ўдвая.

Адчуваю Айчыну
Я крыніцай сваёй,
Ля крыніцы — калінай,
Ля каліны — раллёй.

Я сваю Беларусь
Не пастаўлю на кон.
Толькі гэткі ў жыцці
Мой Асноўны Закон.

І куды б ні закінуў
Пераборлівы лёс,
Не стрымаць ля каліны
Сваіх радасных слёз.



# Плён

*Інтэрв'ю з Нінай Шклyаравай*

*— У колькі год вы распачалі літаратурную дзейнасць і што аказала на яе ўплыў?*

— У школьныя гады. Да кожнага свята настаўніца давала заданне: знайсці адпаведны падзеі верш і вывучыць яго напамяць. Аднойчы напісала свой і сказала, што адшукала ў нейкай кнізе, а хто — аўтара напісаць забылася... Прайшло. А потым слых па вёсцы пайшоў, што Міхась Шкляраў верш надрукаваў у газеце «Зорка» і атрымаў ажно 20 рублёў. Увесь наш клас навыперадкі пачаў «кляпаць» вершыкі. Але хутка ўсе здаволіліся. Міхась дык генералам стаў, у Маскве жыве. А ў мяне вось вірус гэты прыхаваўся. Хаця спрабавала не пісаць гадоў 15...

*— «Слова пра паход Ігаравы»: калі і як ўзнікла ідэя перакладу? Ці складана было працаваць?*

— Пераклад «Слова...» і для мяне загадка. Зусім не збіралася гэтага рабіць. Цікавілася прытчамі і малітвамі Кірылы Тураўскага. Вычытала меркаванне навукоўцаў, што магчымым аўтарам «Слова пра паход Ігаравы» быў наш палескі Залатавуст. Рашыла перачытаць паэму, каб адшукаць падабенства з почыркам Кірылы Тураўскага: з яго стылем, вобразамі, выслоўямі. І не заўважыла, як захапілася гэтым творам цалкам, пачала перакладаць. Пісалася лёгка, неадрыўна, узнёсла... Містыка нейкая... Месяцы тры амаль не разгіналася над аркушам паперы... Я і цяпер над ім працую: нешта змяняю, удакладняю, асэнсоўваю. Не адпускае...

*— Вучоба ва ўніверсітэце. Якімі цікавасцямі (студэнцкія згуртаванні, мерапрыемствы, газеты) яна запомнілася?*

— Ва ўніверсітэце я правучылася ўсяго два гады. Захварэла маці — і я перавялася на завочнае, пайшла працаваць у газету «Маяк». Але ж студэнцкія гады — гэта была мая залатая пара — і ў творчасці, і ў жыцці. Па Гомелі снавала наіўнае вясковае дзяўчо, перапоўненае мроямі. Ліверка, камса і кефір былі нашымі лепшымі ласункамі. Ніштo не магло сапсаваць легкадумнага настрою. Хіба што аднойчы ўкралі грошы, якія збірала на новыя боты... Але ж сумавала нядоўга. І ў старых ботах марылася не горш. Удзячная лёсу, што былі ў мяне такія выкладчыкі, як Любоў Якаўлеўна Цэхановіч і Мікалай Архіпавіч Янкоўскі.

Лекцыя. Выкладчык гудзіць, як муха. А я сяджу і пісьмова думаю: «А дома ж кабана смаляць!» І не заўважаю, як падыходзіць лектар — Янкоўскі — і бярэ мой «канспект» у рукі. «Зараз будзе, —думаю,— не здабравацъ мне...» А Мікола Архіпавіч як зарагоча! І чытае ўслых. Усіх насмяшыла. Была ў нас і насценная газета, і, як у вас зараз, — універсітэцкая друкаванка. Пазней толькі, калі Іван Штэйнер наладзіў сустрэчы выпускнікоў, я даведалася са слоў Ірыны Багдановіч, што на мой верш «Чакаю» была напісана музыка і ён стаў своеасаблівым студэнцкім гімнам. Я ж на завочнае перавялася і не ведала нават. На нашым факультэце вучыліся Віктар Ярац, Таіса Мельчанка, Мікола Хамянкоў...

*— «Дзічка», «Аканіцы», «Ліставей», «Загадкі для вашага дзіцяткі»... Якія маеце далейшыя планы?*

— Былі яшчэ кнігі «Мая вёска» (1971), «Міг і вечнасць» (1979, выдавецтва «Мастацкая літаратура»). «Дзічка» і «Аберуч» (пераклады) выйшлі якраз пасля майго доўгага маўчання, праз 20 год... Дачка вучылася ў Маскве, у Літінстытуце. Не хапала грошай. Падымала яе адна. Стаяла на базары. Далейшыя планы? Ніякіх. Проста жыву і працую. Дасць



Бог здароўе — будуць і кнігі. Вас, рунь маладую, падтрымаць трэба. Дачакацца б першага ўраджаю кніжак... Вам працягваць нашыя літаратурныя традыцыі, выпраўляць хібы.

*— Якімі ўзнагародамі была ўшанаваная ваша дзейнасць? За якія творы вы атрымалі гэтыя прэміі?*

— Першая, самая памятная — гэта перамога ў Фестывалі маладой паэзіі (1968 г.). Не, усё ж, відаць, раней — на конкурсе «Мой родны кут» (11 клас, 1965 г.) Мы з сяброўкай, Тамарай Дзям'янцавай, «паспорылі» на кнігу С. Грахоўскага «Памяць», што я выйграю конкурс. Пераможцаў было трое: Я. Янішчыц, А. Разанаў і я. Мой верш чыталі па радыё. І ўяўляеце сабе — мы з Томай ляжым на печы (рыхтуемся да экзамену), а па радыё нечакана гучыць: «Дзе ты, дзе ты, мая вёска?» Вучыліся мы ў Церахоўскай сярэдняй школе, кватаравалі ў знаёмай бабулькі. А Тамара падарунак падпісала так: «Праспораная кніжачка».

Ну а пазней ужо — прэмія Івана Мележа, затым першае месца ў Першым конкурсе імя Кірылы Тураўскага, і пасля выхаду кнігі «Аканіцы» — расійская прэмія імя Мікалая Мельнікава. Зацікавілася творчасцю гэтага маладога паэта, заўчасна загінуўшага. Пераклала на беларускую мову яго выдатную паэму «Рускі крыж», выдадзеную на трох мовах. Гэтую работу таксама адзначылі рэспубліканскай прэміяй «За лепшы твор. 2010 г.» у галіне перакладу. Але ж мой гонар — дыпломы за перамогі ў конкурсах маіх выхаванцаў, маладых літаратараў школы...

*— Што вы можаце распавесці пра сучаснае літаратурнае жыццё Гомеля? Ці не адчуваецца, на ваш погляд, у нас некаторай правінцыйнай адсталасці?*

— Мне здаецца, што літаратурнае жыццё на Гомельшчыне зараз толькі набірае сваю моц і сілу. Зараз ідзе вялікі ўсплеск маладых талентаў, якія здзіўляюць нават

сталіцу. Напрыклад, такія імёны, як Алесь Бараноўскі, Ганна Новік, Маша Маліноўская, Таццяна Нілава, Стася Кацюргіна, Вольга Астапенка… Нашы празаікі: Сяргей Прывалаў, Маша Булавінская, Яўген Малевіч, Марына Саломіна… І гэта не ўсе. Яны выступаюць, перамагаюць у творчых конкурсах, друкуюцца. Некаторыя маюць свае першыя кнігі. Ёсць плён, а гэта галоўнае. Значыць, ёсць будучыня ў нашай літаратуры.

Серабро, серабро, серабро,
Залацістага вэлюму дым!..
Залатое маё ўсё дабро —
Маладым, маладым, маладым.

*— Раскажыце, калі ласка, пра гісторыю ўтварэння і дзейнасць Студыі маладога літаратара.*

— Сваёй думкай аб стварэнні Школы — студыі маладога літаратара — я падзялілася спачатку з Ліліяй Фёдараўнай Буланавай (тады дырэктарам Славянскай спецыялізаванай бібліятэкі). Затым на першым з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі з Уладзімірам Гаўрыловічам (2006). Нас падтрымаў Сяліцкі Валерый Сцяпанавіч. Прапанавалі займацца ў бібліятэцы ОКЦ, як мы коратка называем, у «Славянцы». У 2009 годзе нашу школу ўзяў пад сваё крыло Гомельскі абласны Палац творчасці дзяцей і моладзі. Майстар-класы пісьменнікаў — раз у тыдзень. Паэт Іван Бісеў вядзе ў школе свой семінар. Гэта ён заснаваў і аплаціў паэтычную серыю. Першымі ластаўкамі сталі Іна Спасібіна, Дар'я Дарошка, Уладзімір Чараухін… Паэт Валерый Вятошкін падтрымаў выпуск серыі «Бібліятэчка школы «Малады літаратар». Важна, каб кожны рабіў сваю справу. А рухаемся мы ў адным кірунку — да Слова…

*Гутарыла Ганна Новік,*
*аўтар паэтычнага зборніка «Сумёты агню»*

# Змест


Замест прадмовы . . . . . 3
Малітва . . . . . 3

## Пад кронаю поўні

Млён . . . . . 6
Поўня . . . . . 6
Серабро . . . . . 7
Шугалея . . . . . 8
* * * Нібы парасонік… . . . . . 9
Каласаванне . . . . . 10
Пра гэтае . . . . . 11
* * * Таіса… . . . . . 12
Крый нас, Божа… . . . . . 13
* * * Буслянку бусел будаваў… . . . . . 14
* * * Чаму нямашака на свеце… . . . . . 15
Адказ . . . . . 15
* * * Ад кулі… . . . . . 16
Песня яблыні . . . . . 16
* * * Я — палонная вечнасці… . . . . . 17
* * * Гэй ты, з касою за плячыма… . . . . . 18
Дзень добры . . . . . 19
Добруш . . . . . 20
Іпуць . . . . . 20
Скарбніца . . . . . 21
* * * У цянётах памяці блукаю… . . . . . 22
* * * Зорная ноч… . . . . . 23
Я хацела б вярнуцца… . . . . . 24
Паплечнікам . . . . . 25
Слова прарока . . . . . 26
* * * Стараюся, ды не спраўляюся… . . . . . 26
Мудраголікі. *Жарт* . . . . . 27
* * * За снапамі рагочуць гусі… . . . . . 28
Балада Месяца . . . . . 28
Вечнасць . . . . . 30
* * * Ты цалуеш мне рукі… . . . . . 31
Расстанне . . . . . 31
* * * І не трэба мне звонкае медзі… . . . . . 32
Пакуль . . . . . 33
Гаворка з небам. *Санеты* . . . . . 34

## Зорная пільніца

*З кнігі «Мая вёска», 1971*

Беларусь, маё шчасце . . . . . 44
* * * Дачка я сялянкі… . . . . . 44
Родная мова . . . . . 45
Мая вёска . . . . . 45
Родная хата . . . . . 46
* * * Мне не так ужо многа і трэба… . . . . . 47
* * * Збіраю шолахі… . . . . . 47
Айчына родная . . . . . 48
* * * І я тут пасадзіла саджанец… . . . . . 49
Бяссмерце . . . . . 50
Смага . . . . . 51
Маці . . . . . 52
* * * Уцякло маленства… . . . . . 53
Рукі . . . . . 53
* * * А некаторыя глядзяць з усмешкай… . . . . . 54
* * * Нясе мяне нялёгкая… . . . . . 54
І тады я не буду маўчаць… . . . . . 55
Пашкадуйце . . . . . 56
Дабрата . . . . . 56
* * * Напісаць хацела пра вайну… . . . . . 57
* * * Трымаю ў руках я… . . . . . 58
Я ведаю… . . . . . 58
Хачу быць… . . . . . 59
Боль . . . . . 60
Роздум . . . . . 60
Світанне . . . . . 61
Прыходзь . . . . . 61
* * * Каціўся яблык па роснай траве… . . . . . 62
* * * Лясную гром так, што зморана… . . . . . 63
Лета . . . . . 63
Люблю . . . . . 64
* * * Абняла бяроза… . . . . . 64
* * * У водах шэрай рачулкі… . . . . . 65
* * * Я нарадзілася ў лесе… . . . . . 66
Мяне чакаюць . . . . . 67

*З кнігі «Міг і вечнасць», 1979*
* * * А нядаўна так шумела... . . . . . . . . 68
Галінка алешыны. . . . . . . . . . . . . . . . 69
* * * Я вечнасці вялікай толькі міг... . . . . 69
Тралейбусы . . . . . . . . . . . . . . . . . . 69
* * * На старэнькім, як сама, пяньку... . . . 70
Сустрэча. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 71
З чым параўнаць? . . . . . . . . . . . . . . . 71
Ранак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
У лесе . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
* * * Запытаў мяне рамонак кволы... . . . 73
* * * Над ракою ціша... . . . . . . . . . . . 74
Ля Вечнага агню . . . . . . . . . . . . . . . 74
Добра, калі... . . . . . . . . . . . . . . . . 75
* * * Чаму ў сэрцы туга... . . . . . . . . . . 75
* * * Ты мяне, калі ласка, пусці... . . . . . . 76
Шчасце . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 76
* * * Так цвілі мае паляны... . . . . . . . . . 77
* * * На палях тваіх — лёну нябёсы... . . . . 77
* * * Колькі ў маім Гомелі рабін... . . . . . 78
* * * Дрэмлюць мае летуценні... . . . . . . 78
Сон . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 79
* * * І цяжка мне, і летуценна... . . . . . . 79
* * * Прарастаю праз слёзы... . . . . . . . 80
Сум . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 80
* * * Не прыйшоў і не трэба... . . . . . . . 81
* * * Як маланка, бяроза... . . . . . . . . . . 82
Чакаю . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 82
* * * Мяне вабяць дарогі... . . . . . . . . . . 83
Не такі, як усе . . . . . . . . . . . . . . . . 83
* * * Смяецца званочак блакітны... . . . . 84
* * * Успалыхнула зарніца... . . . . . . . . . 84
* * * І адкуль ты ўзяўся... . . . . . . . . . . 85
* * * Прыйдзі, прыйдзі, прыдзіра... . . . . 86
* * * Эх, мой хлопец... . . . . . . . . . . . . 86
* * * Дзіўна, дзіўна... . . . . . . . . . . . . . 87
* * * Сэрцы два чакалі... . . . . . . . . . . . 87
* * * Адчуваю кожнай клеткай шчасце... . 88
* * * Баялася згубіць — згубіла... . . . . . . 88
* * * У ноч я кінуся... . . . . . . . . . . . . 88
* * * Ноч, як хусткай ахінула плечы... . . . 89
* * * Ты патрэбен мне гэтым ранкам... . . 89
* * * Каму я гэтым шчасцем абавязана... . 90
* * * Зацвітаюць вечарамі зоры
у блакіце... . . . . . . . . . . . . . . . . . 90

*З кнігі «Дзічка», 2001*
* * * Слухайце, яшчэ адна знаёмая... . . . 92
* * * Я не маўчу, мая сяброўка... . . . . . . 93
* * * Ведаеце, сёння я плакала
спрасоння... . . . . . . . . . . . . . . . . 93
* * * Ой ляцелі птушкі... . . . . . . . . . . . 94
Споведзь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 94
* * * Ноч. Дарога шорхае аб днішча... . . 96
Прыкмета. *Тэрцыны* . . . . . . . . . . . . 97
* * * Кірмаш... . . . . . . . . . . . . . . . . . 97
* * * Забілі... . . . . . . . . . . . . . . . . . . 98
* * * Як з плячэй маіх крыж мой... . . . . . 98
* * * Няўжо недзе нехта вершы піша... . . 99
Вам . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 99
* * * Вострае лязо — мая паэзія... . . . . 100
* * * Я, нібы жабяня зледзянелае... . . . 100
* * * А я веру ў дабро... . . . . . . . . . . 101
Мой верш. *Рандо* . . . . . . . . . . . . . 101
Трыялет . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 102
* * * Некалі царква стаяла тут... . . . . . 102
Даволі плакаць. . . . . . . . . . . . . . . . 103
* * * Мамачка!. . . . . . . . . . . . . . . . . 104
* * * Церуху парэзалі канавай... . . . . . 105
* * * Еду да роднай цёткі... . . . . . . . . . 105
* * * Як толькі цётка псалмы
распявала... . . . . . . . . . . . . . . . . 106
* * * Ліхтар адзіны на знямелай
вуліцы... . . . . . . . . . . . . . . . . . . 106
Хатынь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 107
* * * Выйдзі, бацька, на балкон,
пабач... . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 107
* * * Пакуль Чарнобыль у душу
глядзіць... . . . . . . . . . . . . . . . . . 108
* * * Усюды квадраты... . . . . . . . . . . . 108
* * * Не для адводу ад людскіх
вачэй... . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 109
* * * Твая душа неўтаймаваная... . . . . . 110
* * * А смеху ўсё меней... . . . . . . . . . . 110
* * * Шчасце, калі з лістотай... . . . . . . 111
* * * Як разгарэліся ў траве... . . . . . . . . 111
Мазыр. *Рандо* . . . . . . . . . . . . . . . 112
* * * Мы ісціну адшукваем упарта... . . . . 113
* * * Ветразь скача, нібы лось... . . . . . 113
* * * Зіма была... . . . . . . . . . . . . . . . 114
* * * Вершы мае, мае летуценні... . . . . 115



* * * Губляе бэз бесперапынна... . . . . . 116
* * * Усю ноч ішоў дождж... . . . . . . . . . 116
Ластаўка. *Трыпціх* . . . . . . . . . . . . . 117
* * * Крочу, быццам па ільду... . . . . . . 121
* * * Аніяк не спіцца... . . . . . . . . . . . 121
* * * Мне прысніўся твой ліст да мяне... 122
* * * Ты мне сніўся раней... . . . . . . . . 122
Я не для вас... . . . . . . . . . . . . . . . 123
* * * Захацелася мне ведаць... . . . . . . 124
* * * Вуснамі лаўлю тваё дыханне... . . . 125
* * * Разлагодзішся, разлагодзішся... . . 125
* * *Ну, што ты кажаш... . . . . . . . . . . 126
Эратычны нацюрморт . . . . . . . . . . . 127
Пра любоў . . . . . . . . . . . . . . . . . . 128
Яблычны Спас . . . . . . . . . . . . . . . 129

*З кнігі «Аберуч», 2007*
* * * Зашклёна рэчка тонкім лёдам... . . . 130

*З кнігі «Аканіцы», 2007*
Ля помніка А. С. Пушкіну . . . . . . . . . 131
* * * Як жабрачка глухая... . . . . . . . . . 131
Гомельшчына. . . . . . . . . . . . . . . . . 132
* * * Месяц, нібыта манах... . . . . . . . . 133
Помнік Купалу . . . . . . . . . . . . . . . . 134
* * * Прамільгнуў і згас... . . . . . . . . . . 135
Будзьма . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 135
Сенакос . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 136
Вярбіна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 137
* * * Матуля любая мая... . . . . . . . . . . 137
* * * Ночы куродым... . . . . . . . . . . . . 138
Ля хаты. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 139
Вольніца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 140
* * *...І як быццам душа адляцела... . . . 140
Залатое вяселле . . . . . . . . . . . . . . 141
* * * Песні сяброўкі,як тыя зёлкі... . . . . 142
* * *О, не для геніяў мае... . . . . . . . . . 142
* * * Што мне калісьці не далося... . . . 143
* * * Я кнігу раскрыю... . . . . . . . . . . . 144
Пажаданне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 145
* * * Там, дзе да лесу туляцца падлескі... 145
Я прыйду . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 146

## Паломніца вечнасці

Пялёсткі. *Паэма* . . . . . . . . . . . . . . 148
А вішня ўсё ж цвіце... . . . . . . . . . . . 169
Лекса, або Балада пра песню . . . . . . 173
Балада пра зорку . . . . . . . . . . . . . . 184

Плён. *Інтэрв'ю з Нінай Шкляравай* . . 193

Пры афармленні вокладкі выкарыстаны карціны
Любові Зубавай «Луна» і «Сонца».

На 4 старонцы — партрэт Ніны Шлякравай
работы Алены Агінай.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Шклярава** Ніна Нічыпараўна

*Млён*

*Вершы, паэмы, баллады*
*1971-2012*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Галіна Каржанеўская*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 16.10.2012. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 10,5. Ул.-выд. арк. 7,8.
Наклад 200 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.